


Літаратура і мастацтва
газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

30 ЖНІЎНЯ 2002 г. № 34/4168 КОШТ 310 РУБ



3

*Сяргей КАСЦЯН:*
**"Мы павінны падняць прэстыж нацыянальнай беларускай літаратуры..."**



4-5

*Іван ЧАРОТА:*
**"Правільнасць прызначэнняў і іншых меркаванняў выверыцца часам, дакладней — канкрэтнымі вынікамі, як гэта было заўсёды"**



6-7

**Замак трох магнатаў**

1 ВЕРАСНЯ
ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА
МІР 2002

*БУДЗЬМА РАЗАМ У ЧАЦВЁРТЫМ КВАРТАЛЕ 2002 ГОДА!*

*Шаноўныя чытачы! Падпіска на "ЛіМ" працягваецца. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1950 рублёў, на тры — 5850 рублёў.*
**Індывідуальны індэкс — 63856.**
*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 3500 рублёў, на тры — 10500 рублёў.*
**Ведамасны індэкс — 63857.**

## АБСЯГІ

МАГІЛЁЎШЧЫНА

### Артысты не падвялі

Яшчэ зусім нядаўна ў горадзе Бялынічы прайшоў абласны агляд-конкурс патрыятычнай песні. Уімпрымалі ўдзел і шэраг артыстаў з горада Касцюковічы. Прычым вакальна-інструментальны ансамбль "Этыкет" гарадскога Палаца культуры заняў 3-е месца. У намінацыі "малыя вакальныя формы" трэцяе прызавое месца дасталася трыо "Ідэал". Не засталіся ў баку і індывідуальныя выканаўцы. А менавіта Юля Тодрык атрымала спецыяльны прыз у намінацыі "саліст-вакаліст".

На жаль, другую вакалістку Надзею Бондар журы не заўважала. Голас у дзяўчыны таксама выдатны, а фігура — вочы не адвядзеш. Толькі дзіву даешся — куды толькі там глядзелі!

### Будзем гуляць...

Добрай навіной для мужчын горада Касцюковічы Магілёўскай вобласці стала адкрыццё клуба аматараў більярда.

Заснавальнікам і стваральнікам яго з'явіўся аддзел культуры райвыканкама на чале з М. Тыманюком. Дарэчы, работнікі цэнтра культуры намагаюцца ісці ў адзін крок з часам, удакладняючы формы і метады сваёй працы.

На адкрыццё клуба былі запрошаны ветэраны більярда. Наведаў новае месца адпачынку і старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў, разам з загадчыкам аддзела інфармацыі Ігарам Кавалёвым.

Як і адпавядае на кожным якім-небудзь адкрыцці заўсёды гучаць песні. Не забылі пра гэту традыцыю і зараз. А сыграць першую партыю ў більярд прапанавалі ветэранам.

Усё ж праўду людзі кажуць, стары конь баразну не сапсуе, аднак...

### І медыцынская і псіхалагічная дапамога

Чарнобыльская праграма гуманітарнай дапамогі і рэабілітацыі накіравана на аказанне неабходнай медыцынскай і псіхалагічнай дапамогі людзям, якія пражываюць у раёнах, забруджаных радыёнуклідамі. Гэта яшчэ адна з праграм, над рэалізацыяй якой працуе раённы камітэт Чырвонага Крыжа на Касцюкоўшчыне.

Дарэчы, штогод у раёне згодна гэтай праграмы, адбываецца абследаванне насялення перасоўнай дыягнастычнай лабараторыяй Чырвонага Крыжа.

Мэта яго — загадзя выявіць паталогіі шчыта падобнай залозы і захворванні крыві.

Абследаванне аднаго хворага абыходзіцца Чырвонаму Крыжу ў 6—8 долараў.

### З надзеяй пра будучыя кадры

Пацікавіцца працай Беларускага цэментнага завода ў Касцюковічах, гіганта цэментнай прамысловасці, наведала група студэнтаў з 50 чалавек Нацыянальнага тэхнічнага універсітэта. На прадпрыемстве будучых спецыялістаў сустрэў галоўны інжынер В. Сырвачоў, які і азнаёміў студэнтаў з працай усіх цэхаў завода, у тым ліку і кар'ера.

Адпаведна, студэнты сустрэліся і з генеральным дырэктарам завода В. Кісялёвым.

У час размовы закранаціся пытанні экалогіі, умоў працы тэхналогіі выпуску прадукцыі, вытворчыя паказацелі, жыллё.

З задавальненнем госці прынялі запрашэнне, пасля доўгай дарогі прыняць душ. Ды і рознабаковае меню ў завадской сталоўцы, дзе паабедалі студэнты, прыйшлося кожнаму да смаку.

Цяпер кіраўніцтву завода застаецца спадзявацца, што пасля смачнай ежы, усё ж хтосьці з іх і згадзіцца прыехаць працаваць у Касцюковічы.

### Дзе ж вы, мецэнаты?

На пачатку летніх канікул пашчасціла групе школьнікаў з СШ № 4 Касцюковіч. Тут шэфы вучэбнай установы - Беларускі цэментны завод, выдзеліў сродкі і транспарт на паездку дзяцей на экскурсію.

Дзякуючы шэфам, школьнікі наведалі Брэсцкую крэпасць, Белавежскую пушчу з яе флорай і фаўнай. Разам з гэтым наведалі і Белую Вежу, якая знаходзіцца ў горадзе Камянец.

Слоў удзячнасці вельмі шмат, дарэчы, як і саміх уражанняў. Задаволеныя і крыху стомленыя дзеці, нават і не здагадваліся, што ў Беларусі ёсць свае прывабныя месцы, не горшыя, а іншы раз і лепшыя, замежных славутасцей.

Пабольш такіх мецэнатаў, глядзі ўжо і не так бы імкнулася моладзь ехаць за мяжу, каб адтуль цягнуць вялікія баулы з барахлом ды падачкамі...

**У. КАПАЕЎ**

ГОМЕЛЬШЧЫНА

### Зямляцтва беларусаў адзначыла юбілей

З нагоды 120-гадовага юбілею класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа Вінніцкае абласное зямляцтва беларусаў урачыста адзначыла гэтае свята, якое прайшло пад назвай "Беларусь — мая песня".

Урачыстасці пачаліся выкананнем гімнаў Украіны і Беларусі. З прывітальным словам да прысутных звярнуліся намеснік начальніка ўпраўлення культуры аблдзяржадміністрацыі Сяргей Гарбалінскі, начальнік аддзела па справах нацыянальнасцей і міграцыі аблдзяржадміністрацыі Віталь Дайнека, начальнік упраўлення культуры гарадской Рады Марыя Скрыпнік, паэт Анатоль Гармацюк і іншыя.

Ад беларускага зямляцтва Уладзімір Дзямешка запэўніў удзельнікаў урачыстага сходу ў тым, што грамадскае аб'яднанне беларусаў робіць усё магчымае, каб умацаваць сувязі з прадстаўнікамі ўсіх нацый — украінцамі, рускімі, палякамі і іншымі, хто насяляе Украіну. У. Дзямешка падзякаваў аблдзяржадміністрацыі, абласной і гарадской радам за разуменне праблем беларусаў, што жывуць і працуюць у горадзе і вобласці, і дапамогу ў іх вырашэнні.

**Міхась СЛІВА**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

27 жніўня 2002 года адбылося чарговае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні XIV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, на якім разглядалася структура і склад будучага, абноўленага кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі.

Адкрываючы пасяджэнне, старшыня аргкамітэта Уладзімір Гніламёдаў сказаў: "Яшчэ ёсць магчымасць выправіць становішча ў пісьменніцкай арганізацыі. Дзеля гэтага пісьменнікам трэба кансалідавацца і правесці XIV з'езд у канструктыўным, дзелавым рэчышчы. А гэта адбудзецца толькі тады, калі мы на першае месца паставім літаратуру, а не палітыку. Палітыка і палітыкі мяняюцца, а літаратура застаецца, трэба памятаць пра гэта. Цягнік гісторыі, не збаўляючы хуткасць, імчыць наперад, і перад намі сёння нават не сярэдзіна, перад намі апошні вагон. Дык ці хопіць у беларускіх пісьменнікаў мудрасці, развагі, а больш за ўсё рашучасці ўскочыць у гэты апошні вагон?! Трэба вызначацца, трэба кожнаму зрабіць выбар. І з гэтым выбарам мы будзем жыць!" На пасяджэнні былі абмеркаваныя кандыдатуры на пасаду будучага старшыні СБП. Ад імя арганізацыйнага камітэта вырашана вылучыць тры кандыдатуры:

1. Міколу Мятліцкага
2. Анатоля Бутэвіча
3. Алеся Пашкевіча

На пасяджэнні таксама было вырашана прапанаваць з'езду абраць колькасны склад кіруючых органаў СБП:

Рада не болей 45 чалавек.

Рэвізійная камісія не болей 15 чалавек.

На наступным пасяджэнні плануецца разгледзець пытанні, звязаныя з дзейнасцю Беллітфонду і падрыхтоўкай сходу Беллітфонду 24—25 верасня 2002 г. (у рамках XIV з'езда СБП).

На пасяджэнні аргкамітэта з прапановамі выступілі У.Гніламёдаў, М.Мятліцкі, А.Зэкаў, І.Чарота, А.Сульянаў, В.Праўдзін, Я.Міклашэўскі і іншыя.

**Аргкамітэт**

# Вандроўка ў мінулае Беларусі

28 жніўня ў Мірскім замку — філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — адкрываецца выстава фатаграфій Уладзіміра Багданава "Абарончае дойлідства Беларусі". Сваім зместам яна цудоўна дапасуецца да старажытных муроў славутага помніка беларускага абарончага дойлідства. Нядаўна была завершана рэстаўрацыя цэнтральнай вежы замка, дзе і размясцілася фотавыстава арганізаваная Нацыянальным мастацкім музеем у сваім філіяле ў Міры. Гэта сорак мастацкіх фотаздымкаў, якія прэзентуюць славутыя ў гісторыі Беларусі архітэктурныя помнікі, большасць з якіх бязлітасны час і варожая навала ператварыла ў руіны. На фотаздымках Уладзіміра Багданава, зробленых на працягу апошніх двух гадоў, адлюстраваны ўсе захаваныя замкі і палаца-замкавыя комплексы Беларусі, рэшткі разбураных замкаў і магнацкіх палацаў, абарончых цэркваў, рэшткі ўмацаваных кляштараў. Гэта і руіны замкаў у Крэве, Навагрудку, Смалянах, Гальшанах, замкі ў Любчы і Нясвіжы, абарончыя цэрквы ў Сынковічах і Мураванцы і, безумоўна, вежы і сцены Мірскага замка. Уладзімір Багданаў не проста фіксуе архітэктурныя помнікі. На сваіх фотаздымках ён імкнецца адчуць і ўвасобіць сутнасць векавечнага "жыцця" старажытных муроў, іх прысутнасць у сённяшняй паўсядзённасці людзей і краіны. Старажытныя муры для аўтара фотавыставы — гэта "мураваны падручнік гісторыі", своеасаблівая "брама ў мінулае", праз якую нам чуваць яго голас.

"Абарончае дойлідства Беларусі" — трэцяя ў гэтым годзе персанальная выстава Уладзіміра Багданава. Раней яго фотавыставы, прысвечаныя архітэктурнай спадчыне Беларусі, адбыліся ў іншым філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — архітэктурным комплексе францысканскага кляштара ў Гальшанах, а таксама ў Нацыянальным музеі Тараса Шаўчэнкі ў Кіеве. Новая выстава ў Мірскім замку яшчэ раз дэманструе ўлюбёнасць Уладзіміра Багданава, сучаснага гараджаніна, мінчука, журналіста па адукацыі — у мінулае роднай зямлі. Яго захапленне фотаздымкамі архітэктурных помнікаў узнікла параўнальна нядаўна, калі ён адкрыў для сябе "невядомую" Беларусь. Праз кнігі аднаго з першапраходцаў даследавання беларускіх замкаў М.Ткачова, праз работы іншых даследчыкаў старадаўняй беларускай архітэктуры Уладзімір Багданаў знайшоў сваю сцяжыну ў мінулае. З тае пары на працягу ўжо двух гадоў ён робіць свае "вандроўкі ў часе", вандроўкі ў мінулае Беларусі. Ён аб'ехаў многія яе куточкі, фатаграфіруючы касцёлы і цэрквы, замкі і палацы, імкнучыся найлепш увасобіць архітэктурнае характава і рэальны стан існавання гэтых помнікаў. Вынікам сваіх вандровак у "незнаёмую" Беларусь ён шчыра, шчодра дзеліцца з гледачамі.

**Н.К.**

*НАДЗЁННАЕ*

### У Міры

*Хто толькі з праславянскае радні*
*Сюды, да сценаў замка, ні прыходзіў!*
*Хоць час застыў, старэюць камяні,*
*Узгадваючы смерць былых стагоддзяў.*

*Прыглядзьцеся! Тут цені — як крыжы,*
*А ўздыхі асыпаюцца каменнем,*
*Нягледзячы на вецер, што стрыжы*
*З узмахаў крылаў ткуць у захапленні,*

*Нягледзячы на сонечны каскад*
*Над схіламі прыгорбленых пагоркаў...*
*Тут пасадзіць бы — круг за кругам — сад,*
*Каб водар напаіў прастор прагорклы.*

*І памяць наша пусціць карані*
*Са сцен і вежаў мёртвых у свядомасць:*
*Мы — дома, і старыя камяні —*
*Ў падмурку лёсу нашага і дома.*

*Аб іх заўсёды разаб'юцца злосць*
*І спробы патапіць усё у скрусе.*
*Мы ж будзем тымі, хто мы з веку ёсць*
*У часе і прасторы Беларусі!*

**Таіса БОНДАР**

### Міру

*Мір кожнай хаце тваёй, Мір.*
*Выстаяў мужна ты ў грозных сечах.*
*Не раз тут напіўся вайны вампір*
*Гарачай крыві чалавечай.*

*Стагоддзе каторае ні крані –*
*Поўнае вогненных землятрусаў.*
*Міру вам, замкавыя камяні,*
*Міру табе, зямля беларусаў.*

*Мы ўсталі на полі колішніх сеч,*
*Мы жыта і песню сваю пажалі.*
*Міру табе, харалужны меч,*
*Міру вам, долі людской скрыжалі.*

*На пракаветных зямных бальшаках*
*Часоў гартаем сівых быліны.*
*Не зброю згубніцкую ў руках –*
*Годна трымаем кнігу Скарыны.*

*Колькі нас полем жыцця прайшло,*
*Ў смерчы суровым спаліўшы сэрца?*
*Божай лампады жывое святло*
*У далячыні часу пральецца.*

*Памяць не змыта ў слотных дажджах.*
*Колькі сыноў Беларусі імёны*
*Скажуць не надпісы на крыжах –*
*Скажуць збалелыя нашы пісьмёны.*

*Мір кожнай хаце тваёй, Мір.*
*Сонца ў нябёсах вечна прабудзе.*
*Кажа блакіт і курганны жвір:*
*"Мы, беларусы, мірныя людзі".*

**Мікола Мятліцкі**

# *Сяргей Касцян:* “Мы павінны падняць прэстыж нацыянальнай беларускай літаратуры...”

**Напачатку было Слова... Але ў апошні час некаторыя дзяльцы ад палітыкі пачалі Ім пагарджаць і выкарыстоўваць не па прызначэнні, ярасна мусолячы ў сваіх карысных мэтах. Прынамсі, гэта было і раней...**

**Самае сумнае тое, што штосьці падобнае пачало адбывацца і ў літаратурных колах Беларусі, дзе многія пісьменнікі палічылі, што не яны павінны служыць Слову, а наадварот. Яно павінна працаваць на іх і прыносіць ім дывідэнды ў выглядзе займаемых пасад альбо матэрыяльнай выгоды. А ў выніку заўсёды церпіць творчасць! Аднак чыё Слова дойдзе да сэрца нашых чытачоў і застанецца ў памяці нашчадкаў — вызначыць Час. Мы ж звернемся да спраў штодзённых...**

**Прызначэнне Сяргея Касцяна дырэктарам РВУ “Літаратура і мастацтва”, ці як яе пачалі называць у народзе — “холдынг”, сталася вялікай нечаканасцю для многіх чыноўнікаў і было неадназначна ўспрынята ў творчым асяроддзі. Для адных гэта быў шанц спадзявацца на змены ў лепшы бок у выдавецкай справе і магчымасць трапіць на старонкі часопісаў. Для іншых — гэта стала катастрофай... Праясніць сітуацыю мы папрасілі дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Сяргея КАСЦЯНА.**

**Сяргей Іванавіч, чым было выклікана ваша прызначэнне на пасаду дырэктара РВУ “Літаратура і мастацтва” і яго мэта?**

Мэта майго прызначэння на пасаду дырэктара РВУ — згуртавацьнашу творчую інтэлігенцыю вакол рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і мастацтва”. На базе гэтага згуртавання ўзняць аўтарытэт Саюза беларускіх пісьменнікаў, прэстыж нацыянальнай беларускай літаратуры, павысіць аўтарытэт і ролю беларускай мовы ў нашым грамадстве. Гэта — галоўнае!

**— З чым вы сутыкнуліся, калі прыйшлі ў РВУ і якая спадчына дасталася вам?**

— Даволі сумная спадчына, калі не сказаць больш... Варта было толькі паглядзецьна тыражы, і ўсё рабілася ясным і зразумелым. Часопісы тапталіся на месцы, часцяком дубліруючы адзін аднаго, мільгалі адны і тыя ж прозвішчы пісьменнікаў, творы якіх не заўсёды адпавядалі прафесійнаму літаратурнаму ўзроўню, замоўчвалася таленавітая моладзь... Асобныя рэдактары былі ўцягнуты ў палітычныя гульні, у выніку чаго яны перасталі займацца праблемамі беларускай літаратуры і мовы, пытаннямі ролі пісьменніка ў грамадстве, пошукамі маладых талентаў, адным словам тым, для чаго яны былі пастаўлены дзяржавай і за што атрымлівалі зарплату.

І калі стварылі РВУ “Літаратура і мастацтва”, як ахрысцілі ў нашай прэсе — “холдынг”, я адразу сказаў, што галоўныя рэдактары і працоўныя калектывы павінны займацца толькі творчай працай. Палітыкай павінны займацца палітыкі і не за казённы кошт. Мала таго, клопат пра тэхнічны і матэрыяльны бок бярэ на сябе кіраўніцтва “холдынга”. Гэта спадабалася многім, хто шчыра хацеў займацца творчасцю.

Для таго, каб вырашыць многія назапашанныя праблемы, я, як кіраўнік, прыняў рашэнне аб неабходнасці правесці рэканструкцыю ў РВУ, замяніцьасобных рэдактараў, унесці змены і ў работу працоўных калектываў, выпрацавацьновую канцэпцыю.

**Што ўжо зроблена і ў якім накірунку вядзецца работа?**

Па-першае, зроблены кадравыя перастаноўкі, заменены некаторыя рэдактары, іншыя, зразумеўшы, што не змогуць працавацьпа-новаму, пайшлі па ўласным жаданні. Раней усе рэдакцыі былі як бы разрозненыя, мелі свае бухгалтэрыі, тэхнічны персанал і аргтэхніку. Мы пайшлі па шляху стварэння адзінай бухгалтэрыі (з дзесяці бухгалтарскіх работнікаў засталося чатыры), стварылі адзін камп'ютэрны цэх, што дазволіла рэдактарам больш часу і сіл аддавацьтворчым пытанням. Не абышлося і тут без ушчыльнення штату тэхнічнага персаналу. Многія наборшчыкі і вярстальшчыкі былі заняты некалькі гадзін у дзень, а атрымлівалі заработную плату, як за поўны. Таму мы паставілі пытанне прынцыпова, калі ты знаходзішся на дзяржаўнай рабоце, а РВУ “Літаратура і мастацтва” гэта дзяржаўнае прадпрыемства, будзь добры адпрацуй цалкам. Калі хтосьці з тэхнічнага персаналу павінен працаваць не больш за чатыры гадзіны ў дзень, значыцьмы будзем пераходзіцьна працу ў дзве змены. Думаю, што ў прыватных выдавецтвах гэткі ж падыход, калі яшчэ не больш жорсткі. У калектывах рэдакцый РВУ гэтыя новаўвядзенні знайшлі разуменне і падтрымку.



Цяпер ідзе распрацоўка дызайну нашых выданняў, падбіраецца на працу таленавітая моладзь, выпрацоўваецца новая канцэпцыя часопісаў. Калі, напрыклад, гэта часопіс “Маладосць”, то ён і павінен быць для моладзі і пра моладзь, раскрываць іх праблемы, выхоўваць патрыятычныя і нацыянальныя пачуцці. Мала таго, у гэтым часопісе павінны друкавацца творы маладых пісьменнікаў, або творы сталых майстроў пра моладзь. Я нават дапускаю (у разумных межах) публікавацьасобныя творы новых літаратурных накірункаў. Самае галоўнае— рэдактары самі вызначаюць што ім друкаваць у часопісах.

Калі ўзяць статыстыку, то каля 200 цікавых кніг маладых пісьменнікаў ляжаць у шафах выдавецтваў і пыляцца ў чарзе. Я ўпэўнены, з такім стаўленнем да маладых талентаў мы можам страціць іх. А гэта недапушчальна!

Часопіс “Полымя” хацелася б бачыць акадэмічным выданнем, дзе будуць друкавацца сур'ёзныя творы лепшых беларускіх пісьменнікаў. “Нёман” плануецца для публікацый сучаснай беларускай прозы ў перакладзе на рускую мову. Часопіс “Крыніца” павінен апраўдаць сваю назву, гаварыцьпра нашу духоўную спадчыну, уздымаць пытанні філасофіі, рэлігіі, маралі... Што да часопіса "Всемирная литература" мяркуем з цягам часу выпускаць яго на беларускай мове. Многія студэнты нашых вышэйшых навучальных устаноў жадаюць вывучаць замежную літаратуры на сваёй роднай мове і гэта я толькі вітаю. Калі брацьтворы на рускай мове, то магчыма, яны будуць друкавацца ў арыгінале.

**Калі ўжо гаворка зайшла пра часопіс “Всемирная литература”, ці не праясніце пытанне пра яго галоўнага рэдактара, а дакладней пра былога і цяперашняга! У прэсе прайшла інфармацыя, што рэдактарам гэтага часопіса стаў пісьменнік Міраслаў Адамчык.**

Таісу Бондар не задаволілі нашы патрабаванні да работы часопіса, а нас становішча спраў у гэтым выданні. Што датычыць Міраслава Адамчыка, то ў нас з ім адбылася плённая гутарка. Я застаўся задаволены нашай сустрэчай з ім, але пытанне аб яго прызначэнні застаецца пакуль адкрытым.

Ідзе творчы падбор кадраў, а калі я прыму рашэнне, чытачы “ЛіМа” даведаюцца пра гэта аднымі з першых. Далей, калі гаварыцьпра нашу газету, то я і рэдкалегія РВУ лічым, што “ЛіМ” павінен быць не раман-газетай (для гэтага ў нас ёсць часопісы), а гучным голасам нашых набалелых літаратурных і сацыяльных праблем.

Усе пералічаныя выданні павінны быць глыбокімі па змесце, цудоўна ілюстраваны і аформлены, каб маглі канкурыраваць (ва ўсякім разе, цікавілі чытача) не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Вялікая ўвага будзе нададзена маркетынгу і рэкламе. Бо як ні сумна канстатаваць, але ў “Всемирной литературы” ў Беларусі 383 падпісчыкі і толькі 4-ы часопісы ідуць у краіны СНД. Да ўсяго мы сур'ёзна заняліся эканамічнымі пытаннямі. Правёўшы аналіз і разабраўшыся ў асобных нюансах, мы звярнулі ўвагу, што некаторыя часопісы і газета “Літаратура і мастацтва” павінны былі выходзіць на белай паперы, а выходзілі на шэрай няякаснай. Грошы ж плацілі як за белую! Паўстала пытанне: а куды ж пайшлі гэтыя грошы? Натуральна, гэта выклікала пярэпалах у тых, хто непасрэдна павінен быў усё гэта кантраляваць. Паглядзеўшы яшчэ глыбей, мы звярнулі ўвагу, што часопісы ў большасці прадаваліся ў розніцу толькі на 20—25%, а астатнія вярталіся і рэзаліся на макулатуру .

**Але такое становішча не толькі ў вас, а і ў іншых дзяржаўных выданнях...**

Вы кажаце абсалютную праўду... Нават “Советской Белоруссии” па Мінску шмат ідзе на макулатуру. А гэта ўсё дзяржаўныя грошы! І калі я ўзняў усе набалелыя і аб'ектыўныя пытанні, гэта выклікала негатыўную рэакцыю ў некаторых дзяржаўных чыноўнікаў.

Да сённяшняга дня мы яшчэ не забяспечаны сучаснай камп'ютэрнай тэхнікай. А добрая тэхніка — гэта адна з зарук паспяховай работы РВУ.

**— На сённяшні дзень у вашай асобе і РВУ “Літаратура і мастацтва” многія бачаць пагрозу праводзімай некаторымі асобамі антынацыянальнай палітыцы і свайго асабістага дабрабыту.**

Вы недалёкія ад ісціны. Вакол нашага РВУ апошнім часам бушуюць вялікія прыхаваныя жарсці. Хоцьёсцьі адкрытыя нападкі ў прэсе пакрыўджаных і добра асыпаных зялёнай манетай “патрыётаў”. Аднак нягледзячы на злосны шум пэўных колаў, вакол РВУ пачалі аб'ядноўвацца таленавітыя патрыятычна настроеныя творчыя сілы. Сапраўдныя пісьменнікі, якія хочуць бачыць сваю Радзіму ў ліку квітнеючых, зрабілі свой выбар у наш бок, што вельмі затурбавала нашых “добразычліўцаў”.

Мы вырвалі ў праціўнікаў Прэзідэнта ідэалагічнае поле і таму ў “жоўтай” прэсе разгарнуліся атакі супраць нашай дзяржаўнай пазіцыі. Прынамсі, не толькі ў “жоўтай”, але і ў "Советской Белоруссии", якая вельмі і вытанчана падключылася да гэтай барацьбы, як супрацьсамога холдынга, так і супрацьмяне асабіста. Сведчаннем можа паслужыць артыкул Алега Белавусава “Одиннадцатая заповедь", Алесь Адамовіч. Штрыхі да партрэта” за 20 жніўня гэтага года.

**— Не сакрэт, што вашы працаўнікі робяць вялікую стаўку на з'езд пісьменнікаў, які павінен адбыцца ў верасні.**

Так, напярэдадні з'езда пісьменнікаў пэўным колам вельмі нявыгадна, каб творчая інтэлігенцыя павярнулася да Прэзідэнта тварам і плённа працавала на карысць нашай нацыі. Гэта стала прыкметна, калі аргкамітэтпа падрыхтоўцы чарговага XIV з'езда пісьменнікаў адкрыта заявіў, што пісьменнікі гатовы супрацоўнічаць і падтрымліваць уладу. Быў звароті просьба з боку пісьменнікаў да Прэзідэнта, прэм'ер-міністра, кіраўнікоў абедзвюх Палат прыняцьудзел у рабоце з'езда.

Такая заява выклікала трывогу ў пэўных колах, бо значна прасцей паказваць Прэзідэнту, што творчая інтэлігенцыя некіруемая, але дзякуючы нам, асобным чыноўнікам, яна так-сяк стрымліваецца і калі мы адыдзем, не будзем займацца ёю, то яна выступіць супраць Прэзідэнта. А на самай справе ваду каламуціць невялікая група пісьменнікаў, якія з'яўляюцца членамі “ПЭН-клуба”, створанага антыславянскімі сіламі ў многіх краінах.

Пэнклубаўцаў вельмі ўсхвалявала, што беларускі народ робіцца гаспадаром сваёй краіны, а таленавітыя пісьменнікі Беларусі знаходзяцькантактз існуючай уладай.

Пачаўся ціск на пэўных асоб, у тымліку і на мяне, каб зняць мяне з кіраўніцтва РВУ, ды і ўвогуле распусціць “гэты холдынг”. Адзін з пісьменнікаў на мінулым тыдні нават сказаў так: “Сяргей Іванавіч, вы мужны чалавек, але вы павінны вытрымацьяшчэ адзін удар. Раней вас называлі ультраславянінам, але ў бліжэйшы час ва ўсёй апазіцыйнай прэсе вы будзеце фігураваць, як нацыянал-камуніст”.

**—Ды як вас толькі ні называлі... вы ім быццам “костка ў горле”.**

Ды яшчэ якая!.. Але рэч наватне ўва мне ці “холдынгу”... Гэта ўся істэрыя і барацьба разгорнута ў першую чаргу супраць беларускага народа, існуючай нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі і непасрэдна супраць самога Аляксандра Лукашэнкі.

Замежныя гаспадары гатовы даць асобным пісьменнікам гранты і ўсялякую матэрыяльную падтрымку, абы толькі ўнесці раскол у грамадстве і самім асяроддзі СБП. Адзін з пісьменнікаў адкрыта заявіў, што яму даручана ратаваць і падтрымліваць састарэлых літаратараў. Гэта ўсім вядомы ход — наабяцаць шмат, даць долараў перад з'ездам, каб яны прагаласавалі за якога-небудзь пэнклубаўца, а праз тыдзеньпра іх забыцца.

Аднак я ўпэўнены, што ў нас людзі хоць і даверлівыя, але разумныя і разважлівыя. Мала таго, яны патрыёты сваёй Айчыны і зробяцьправільны выбар на з'ездзе СБП.

**Інтэрв'ю падрыхтаваў**
**Уладзімір Якімук**

*P.S. Калі вярстаўся нумар, нам стала вядома, што Сяргей Касцян адмовіўся падпісваць кантракт на пасаду кіраўніка РВУ “Літаратура і мастацтва” і застаўся працаваць у парламенце згодна Канстытуцыі Рэсублікі Беларусь..*

# Беларускай кнізе — жыць!

**Апошнім часам страсці разгараюцца не толькі вакол будучыні Саюза беларускіх пісьменнікаў. Усё больш трывогу выклікае і лёс беларускай кнігі. І не беспадстаўна. Як вядома, прынята рашэнне аб аб'яднанні шэрагу дзяржаўных выдавецтваў. Не мінуў падобны лёс і два з іх, што выпускалі мастацкую літаратуру. Замест "Мастацкай літаратуры" і "Юнацтва" створана адно, што ўзяло назву першага. Памянялася і кіраўніцтва. Дырэктарам аб'яднанай "Мастацкай літаратуры" прызначаны Уладзіслаў Мачульскі — юрыст, арганізатар, а калі глядзець шырэй — гаспадарнік. Уладзіслаў Антонавіч ахвотна згадзіўся адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.**

— *Уладзіслаў Антонавіч, да нядаўняга часу такія адказныя пасады займалі пісьменнікі...*

— Вы хочаце сказаць: сеў не ў свае сані?

— *Гэта Вы дарэмна, але тым неменш...*

— А хто сказаў, што выдавецтва абавязкова павінен узначальваць пісьменнік? Асабліва ў наш час, калі ў гэтай справе столькі цяжкасцяў. І арганізацыйнага, і фінансавага плану. Можа, якраз і лепш, калі за ўсё бярэцца чалавек, які сам не піша. Па-першае, адсутнічае спакуса сябе выдаваць і штогод перавыдаваць. А па-другое, для мяне ўсе аўтары — роўныя. У тым сэнсе, што галоўным крытэрыем пры вырашэнні рукапісу будзе толькі ступень таленавітасці напісанага.

— *Але ж іх, кажуць, сабралася на добры дзесятак гадоў. Асабліва багатая падобная "спадчына" непасрэдна самой "Мастацкай літаратуры", колькасць выпуску кніг у якой апошнім часам вымяралася якім-небудзь дзесяткам назваў у год.*

— Гэта сапраўды так. А адсюль і мэтазгоднасць аб'яднання выдавецтваў. Ненармальна, што вялікія штаты выдавецкіх супрацоўнікаў у пераліку на аднаго працуючага выпускалі ў год... меней адной кнігі! Пра якую рэнтабельнасць можа ісці гаворка? У той жа час кабінеты "Мастацкай літаратуры" ператварыліся ледзь не ў склады рукапісаў, асобныя з якіх нячытанымі ляжаць дзесяцігоддзямі. Пастараемся на працягу месяцаў двух разабрацца, што варта выдання, а што давядзецца вярнуць аўтарам. Рэдактары ў нас высокапрафесійныя, многія маюць вялікі стаж работы, таму іх ацэнка мастацкай вартасці напісанага пэўным аўтарам будзе аб'ектыўнай.

*Аднак, Уладзіслаў Антонавіч, нават пры такім адсеве застанецца нямала вартага выдання.*

— Калі творы асабліва цікавыя, будзем выдаваць у бліжэйшы час. Прымем пад увагу і рэкамендацыі кнігагандлю. У некаторых выпадках папросім аўтара шукаць спонсараў. Разумею, што гэта няпроста, але ж можна пайсці і на такое выйсце: частку грошай дадуць фундатары, частка — дзяржаўная датацыя.

*Кнігу яшчэ трэба прадаць, а сёння, калі пакупная здольнасць патэнцыяльных чытачоў не такая і вялікая...*

— Сёння не трэба сядзець склаўшы рукі. Распаўсюджваць кнігу будзем разам з аўтарамі. Наша служба маркетынгу дапаможа паехаць у любы раён, каб сустрэцца з чытачамі, работнікамі гандлю. А ім прыемна будзе атрымаць кнігу з аўтографам.

— *Чым жа парадуе "Мастацкая літаратура" ў бліжэйшы час?*

Нядаўна зацверджаны план выпуску літаратуры на трэці і чацвёрты кварталы сёлетняга года, а гэта нямнога-нямала, а ў агульнай колькасці 57 назваў.

*Можна паканкрэтней?*

Выйдуць чарговыя тамы Поўнага збору твораў Янкі Купалы — восьмы і першая кніга дзевятага. Завершым выданне Збору твораў Рыгора Барадуліна. Распачнём выпуск Збору твораў Васіля Быкава. Серыя "Паэзія XX стагоддзя" папоўніцца творамі Міхася Зарэцкага і Івана Мележа. Думаю, не застанецца чытач абыякавым да "Вандровак па маіх былых ваколіцах" Уладзіслава Сыракомлі.

— *А што выйдзе з арыгінальных твораў?*

Хочацца па-добраму пазайздросціць творчай няўрымслівасці Івана Пятровіча Шамякіна. Не зважаючы на шаноўны ўзрост, ён па-ранейшаму прапаноўвае цікавыя рукапісы. А кніга "Промні маленства", як відаць з назвы, уваходзіны ў свет дзяцінства. Напісана яна хораша, мудра, а яшчэ, што вельмі важна, аптымістычна. Высокім талентам пазначаны рукапіс Івана Навуменкі "Гуканне над верасам". Выходзяць новыя кнігі такіх вядомых пісьменнікаў, як Алена Васілевіч, Раіса Баравікова, Васіль Зуёнак, Уладзімір Ліпскі, Леанід Пранчак, Браніслаў Спрынчан і іншых. Акрамя таго папоўніцца "Школьная бібліятэка", з'явяцца чарговыя выпускі штогоднікаў "Бацькаўшчына", "Эўрыка". Некалькі рукапісаў прапанаваў Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання. Асобныя кнігі часткова фінансуюцца з фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. Сярод іх — "Мая вайна" Івана Кудраўцава, зборнік п'ес Льва Караічава, кнігі маладых аўтараў. Выпусцім і шэраг камерцыйных выданняў...

*І "Мастацкая літаратура" апускаецца да "лёгкого чтива"?*

Памыляецеся. Падобнае — не для нас. Выдаем некалькі папулярных кніг для дзяцей, у тым ліку і кніжкі-расфарбоўкі.

*Раней пры выдавецтвах працавалі розныя саветы...*

Гэтую практыку захоўваем. Склад рэдакцыйнага і мастацкага саветаў абноўлены. Узначальвае іх галоўны рэдактар выдавецтва Уладзімір Марук, а ўвайшлі вядомыя пісьменнікі, мастакі, галоўныя рэдактары перыядычных выданняў. Хачу сказаць, што лёс беларускай кнігі залежыць ад усіх нас: пісьменнікаў, выдаўцоў, кнігагандлёвых арганізацый. Толькі сумеснымі намаганнямі можна зрабіць так, каб яна жыла. А што беларуская кніга будзе жыць, я не сумняваюся.

*Дзякуй, шаноўны Уладзіслаў Антонавіч, за цікавую і шчырую гаворку і поспехаў вам!*

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "КАЛІ МЫ ЎСЕ РАЗАМ ПЯЦІМ..." ПАКУЛЬ ШТО НЕ ДА ЗОР

*16 верасня вядомаму пісьменніку, перакладчыку, доктару навук, прафесару Івану Чароту спаўняецца 50 гадоў. На днях наш карэспандэнт сустрэўся з Іванам Аляксеевічам і пагаварыў з ім.*

**— Іван Аляксеевіч, пра што думаецца напярэдадні юбілею?**

— Да пэўнай пары чалавеку-мужчыну хочацца выглядаць сталейшым, і ён звычайна акругляе свой узрост да большага, нібы прыспешвае хаду часу, не ўсведамляючы, як цудоўна, што гэта працягваецца даволі доўга. Потым пражытыя гады самі пра сябе сведчаць так, што знікае сэнс і дадаваць да іх, і адымаць, і ўвогуле нейкі "выгляд рабіць". На жаль, гэты перыяд значна меншы. Бо сталасць пераходзіць у старасць – непазбежна і непрыкметна. А працягласць наступнай і апошняй фазы, як і самога жыцця, у нашага пакалення відавочна скарачаецца, таму -- у пяцьдзесят гадоў проста немагчыма адчуваць сябе так, як раней – нават у сорак пяць.

**— І вы сябе ўжо старым адчуваеце?**

— "ЛіМ", віншуючы пісьменнікаў, часта скарыстоўвае азначэнне "поўдзень веку". Наколькі разумею, у яго ўкладаецца вельмі шчодрае пажаданне -- каб век жыццёвы быў роўны веку-стагоддзю. Але я на такое даўгалецце нават у самых ружовых планах не прэтэндую. А разгортваючы гэтую метафару, улічваю, што апоўдні цень павялічваецца. І, натуральна, не хачу, каб цень ад маёй дробнай постаці быў неадпаведным, а тым болей кагосьці палохаў.

**— Гэта гаворыце пра ўспрыманне з боку ці з сярэдзіны?**

Ёсць чаго палохацца і мне самому. Скажам: што неспадзявана ўсё мацней прывязваюся да горада, "адвязваючыся" ад вёскі і ад маці, пакінутай у вёсцы; што як інтэлігент у першым пакаленні мала зрабіў і для захавання радаводнага саслоўя, і для ўмацавання інтэлігенцыі, якая звыкла-недарэчна ўсё яшчэ завецца праслойкай; што многія добрыя намеры мае так і засталіся няздзейснымі; што нярэдка займаюся справамі, якія толькі здаюцца важнымі, а ў сапраўднасці такімі не з'яўляюцца.



**— Вы не задаволены тым, як пражылі пяцьдзесят гадоў?**

— Я ўдзячны Госпаду за ўсё. А Ён мне даў больш, чым я варты, паколькі многае з дараванага Імя проста прафукаў, як кажуць. Адпаведна, чым далей, тым больш стараюся такога не паўтараць. Ды не пахвалюся, што ўдаецца.

**— А чым задаволены?**

— Звычайна ўсе справы дзяляць на прыемныя і патрэбныя. Вядома, нават у суб'ектыўным успрыманні такія ацэнкі могуць мяняцца, аднак усё роўна супрацьпастаўляюцца. А я, дзякуй Богу, меў і маю шчасце спалучаць іх. Так, для мяне найцікавей, найпрыемней чытаць і асэнсоўваць прачытанае – дык гэта ўсё жыццё раблю і нават нешта зарабляю (у якасцях выкладчыка, крытыка, літаратуразнаўца, перакладчыка, рэдактара). Прычым любімы занятак, які стаў прафесіяй, істотна карэгуе ўсё астатняе. Напрыклад, я з ранняга маленства надта любіў пісаць вершы і, прызнаюся, не заўжды мог утрымацца ад гэтага ледзь не да апошняга часу – што праўда, усё радзей і радзей такі сверб адчуваючы. Ды крытык і літаратуразнавец, прызначэнне якога, хочаш – не хочаш, у тым, каб цвяроза ацэньваць творчыя амбіцыі і здзяйсненні іншых, павінен з аналагічнымі крытэрыямі ставіцца і да сябе самога. Таму лепш заставацца "паэтам" толькі для сяброў дзяцінства, для дзяўчатак, якім складаў лірычныя пасланні, ды для жонкі, з тых самых дзяўчатак. А вершаваным опусам, якія заваляліся, іншы лёс вызначыцца хіба тады, калі страчу сорам -- перад калегамі-пісьменнікамі і асабліва перад вучнямі, у якіх я не толькі паводле абавязку, але і паводле перакананняў, імкнуўся выхоўваць адпаведнае стаўленне да Слова і Славеснасці.

**— І як цяпер удакладняецца разуменне таго, што для вас больш істотнае?**

— У апошні час усё больш патрэбнай – для сябе самога -- лічу працу аналітычную, даследчыцкую. Так, адштурхоўваючыся ад сваёй кніжкі "Пошук спрадвечнай існасці", у якой рэфератыўна быў выкладзены зместдоктарскай дысертацыі, рыхтую манаграфію пад умоўнай назвай "Беларускасць: гістарычны, духоўна-культуралагічны змест" (на рускай мове), працягваю распачатую больш як дваццаць гадоў таму працу над кнігай "Глеба і неба Максіма Багдановіча", дапаўняю новымі матэрыяламі абедзве анталогіі (паэзіі і прозы) "Насустрач Духу"... Дарэчы, у сувязі з гэтым звяртаюся яшчэ раз да ўсіх зацікаўленых пісьменнікаў, каб прапаноўвалі свае творы.

**— А чаму не згадваеце перакладчыцкую працу?**

— Ад перакладаў, відаць, ужо не змагу адысці ніколі. З розных прычын, але ў асноўным з-за таго, што пэўныя тэксты іншанацыянальных аўтараў лічу патрэбнымі для шырокага кола нашых чытачоў, хоць выдаваць іх па-беларуску надзвычай цяжка. Сведчу гэта, маючы ў стале дзесятак (паўтараю: дзесятак) перакладзеных кніг.

Але маё асабістае наўрад ці каго цікавіць. Вы, напэўна, у працяг ужо друкаваных анкеті іншых перадз'ездаўскіх матэрыялаў, хочаце, каб я перайшоў да агульна значнага, асабліва да самага актуальнага...

**— Канечне, цікава пачуць, што вы думаеце пра гэта.**

— Усе мы так ці інакш маем дачыненне да спраў у Саюзе пісьменнікаў і вакол яго. Разам з тым нельга сказаць, што ўсе аднолькава заклапочаны гэтай складанай сітуацыяй, а тым больш аднолькава зацікаўлены, каб знайсці найлепшае выйсце з яе. Пакуль што не заўважаецца наватгатоўнасці спакойна выслухаць адзін аднаго, памяркоўна разабрацца з усімі праблемамі і прыняць канструктыўнае рашэнне. І гэта, вядома ж, непакоіць. Чым далей, тым больш. Сітуацыя ўскладнілася і ў параўнанні з перыядам папярэдняга з'езда. Яна тады была не лепшая, затое больш празрыстая для ўсіх: не ўзнікала асаблівых сумненняў наконт прычыны бязладдзя; высветлілася канчаткова, хто канкрэтна ў чым вінаваты; акрамя ўсяго, выклікалі пэўны давер тыя, хто браўся выправіць становішча, а галоўнае -- пераважная большасць пісьменнікаў спадзявалася, што існаванне саюза можа працягвацца ў звыклых формах ...

**— А хіба кепска, што хацелася захаваць звыклае? Іншая справа, наколькі гэта было магчыма**

— Вядома ж, так працягвацца не магло. І тады, і намнога раней. Ды разумна скарыстоўваць папярэдні вопыт мы не пажадалі. Ці не змаглі. Самі сябе заганялі ў тупік, з якога самі, на жаль, выбрацца — зноў-такі не ўмелі. Ці не жадалі. Вось гэта, галоўнае, трэба прызнаць і асэнсаваць. А не шукаць вінаватых зверху, з боку, побач і далёка.

На цвярозую галаву, трэба прызнаць, што Саюз пісьменнікаў, дзейнічаючы паводле свайго статуту, павінен існаваць як грамадская арганізацыя, г.зн. цалкам за свой кошт утрымліваць усё: і штаты, і будынак, і паліклініку, і дамы творчасці, і перыядычныя выданні, пры гэтым забяспечваць свае мерапрыемствы як радасныя, так і жалобныя, а да таго ж спраўна аплачваць падаткі...

А калі гэта аказалася немагчымым, ён павінен шукаць падтрымкі. Дарэчы, стан, у якім апынулася наша арганізацыя, абумоўлены і чыннікамі суб'ектыўнага парадку. Калі быць шчырымі, варта ўспомніць, самакрытычна ацэньваючы, стаўленне СП Беларусі і канкрэтна вы-

# “КАЛІ МЫ ЎСЕ РАЗАМ ЛЯЦІМ...” ПАКУЛЬ ШТО НЕ ДА ЗОР

лучаных дэлегатамі на “развальны” з'езд СП СССР, які своеасабліва падзяліў маёмасць; трэба таксама сумленна згадаць, як і па чыёй ініцыятыве ў свой час мяняла ўласніка і форму ўласнасці кафэ Дома літаратараў, як прапала пісьменніцкая паліклініка, як здаваліся ў арэнду іншыя памяшканні ДЛ, як даводзілася да ручкі Іслач, як ствараліся нейкія віртуальныя выдавецтвы... І ўсё гэта праходзіла пад гучныя абяцанкі забяспечыць дабрабыт усім членам саюза, а да таго ж самы што ні ёсць духоўны росквіт Айчыны. З народнага мудраслоўя вядома, каму тыя абяцанкі прыносілі радасць. Натуральна, кароткачасовую. Таму, як ні круці, надыходзіць пара, калі нават моцна зачараваныя абяцанкамі павінны ачомкацца: “Затыкай – нанюхаліся!”

**Тым не меней застаецца шмат нявырашаных пытанняў, а каб іх вырашыць, патрэбна дзяржаўная падтрымка. Хіба не!**

— Яшчэ раз удакладнім: хіба ж усе названыя і многія іншыя формы статутнай дзейнасці саюза нашага забараняліся? Можа, былі такія справы па самазабеспячэнні саюза, якія афіцыйна стрымліваліся? Няўжо кнігам, часопісам і газетам на прынцыпе самаакупляемасці не давалася ходу? Ці нехта скардзіцца, што яму не дазволілі адзначыць свой юбілей, калі ён меў на гэта ўласныя сродкі? Ды і грошы зарабляць законнымі спосабамі, здаецца, не перашкодзілі пісьменнікам толькі таму, што яны пісьменнікі – ёсць жа сярод нас тыя, хто бізнесам займаецца не без поспеху ...?

Так што, відавочна, даймае нас не надуманы ўціск, а спецыфічнае, мякка кажучы, стаўленне да ўзаемаадносін з дзяржавай. І ўсім гэта зразумела, бо ўсе ж, паклаўшы руку на сэрца, здольны адэкватна ацэньваць рэальны стан рэчаў. Таму, на першы погляд, як парадокс выглядае тое, што ажно да палярнасці адрозніваюцца публічныя дэкларацыі членаў саюза. Але тут нічога парадаксальнага няма. Ёсць толькі большая ці меншая шчырасць і паслядоўнасць у пазіцыях. А наогул саюз як суполка праходзіць шчыльнымі радамі этапы, якія, думаецца, дапушчальна азначыць так: эйфарыя (ад таго, што гарантаванае пры саветах лічылі неадменнымі чакалі, паверыўшы абяцанкам, што постсавецкія ўлады забяспечаць яшчэ больш, дадаткова) – шокавая тэрапія (самім давялося высветліць, па чым на хвалёным рынку фунт хлеба ў параўнанні з аўтарскім аркушам, а таксама набыць новы досвед, што ж адлюстроўвала народная мудрасць у выслоўі: “Звоняць, ды з хаты гоняць”) – істэрыя ( прычым на фоне сімптомаў невылечанай пакуль што эйфарыі: маўляў, як гэта можна так абыходзіцца з намі!..)

А тым не меней адзінства няма. І нездарма ж гаворыцца, што щ саюзе раскол.

Калі хочаце, разам паспрабуем асэнсаваць, што яшчэ яднае, а што разводзіць беларускіх пісьменнікаў.

**— Усё ж такі ёсць тое, што яднае!**

— Як ужо адзначалася, перш за ўсё аб'ядноўвае інерцыя былога. У дадатак да сказанага прывяду па памяці досціп калегі: даўно няма Саюза пісьменнікаў СССР, як і самога СССР, а мы ўсё патрабуем, каб нас прызнавалі пісьменнікамі ў ранейшым статусе. Асабліва дзіўна, калі такія патрабаванні зацята (свядома, несвядома, з нейкіх асаблівых прынцыпаў – гэта ўжо іншае пытанне) выстаўляюць тыя, што лічаць сябе дэмакратамі, высмейваюць "саўковасць" у іншых праявах і заклікаюць да барацьбы. Прычым заклікі гэтыя нярэдка навязваюць логіку, ад якой мурашкі па скуры бягуць: "Нічога, што хата згарыць, важна, што прусакоў вынішчым!" На маё разуменне, гэта не па-беларуску. Ды і беларус-пісьменнік, заражаны змагарскім духам, напэўна, мае права ўдакладніць, як мэты барацьбы не акрэсліваюцца ў дачыненні да літаратурнай, культурнай сфер: вяртанне таго, што раньш было,-- немагчыма; развіццё нацыянальнага за кошт саміх барацьбітоў – такі ж неверагодна; распаўсюджванне і замацаванне нацыянальных псеўдакультурных каштоўнасцей, у сістэме "культавымі", апроч долара, з'яўляюцца “кока-кола” і авечка Долі - - наўрад ці ёсць сэнс у барацьбе за іх...

**Гэта трэба разумець так, што вы заклікаеце, каб пісьменнікі падтрымлівалі ўладу!**

Інтэлігенцыя ў прынцыпе – што называецца, паводле сваёй прыроды -- не павінна ўцягвацца ў актуальную палітыку, а гэта азначае, што ёй запраграмавана, так сказаць, і дыстанцыянавацца пэўным чынам ад улады, не ігнаруючы пры гэтым аналітычных функцый, асабліва ў дачыненні да сфер грамадскага жыцця, дзе яны кампетэнтныя. Дыяпазон рэалізацыі патэнцыялу -- ад кансультанцтва да апаненцтва. Аднак інтэлігенцыі, паводле азначэння, супрацьпаказана быць дэструктыўнай. Вось як, на добры лад, мне бачыцца роля інтэлігенцыі як часткі грамадства ўвогуле і канкрэтных прадстаўнікоў яе паасобку. Што ж да суполкі творчай інтэлігенцыі, дык тут маюцца свае, вельмі істотныя асаблівасці. Яны ў тым, што творчы прафесійны саюз проста не мае права – перш за ўсё, паводле свайго статута – калектыўна браць удзел у партыйна-палітычных баталіях. Гэта рэчы, што называецца, азбучныя. Ды якраз стаўленне да іх, раз'ядноўваючы, разбурае наш саюз як творчы і прафесійны, а ў рэшце рэшт і як карпаратыўнае аб'яднанне інтэлігенцыі.

**— Гэтай пазіцыі вы заўсёды трымаліся ці такія погляды цяперашняй сітуацыі!**

— Тое самае выказваў я і напярэдадні мінулага з'езда, заклікаючы перш за ўсё да адказнасці. Каб меў большую амбітнасць альбо з'едлівасць, я б зараз мог наракаць, а то і папракаць, што не паслухаліся мяне, публічна аспрэчвалі. Ды я не схільны перабольшваць сваю маленькасць, выдатна разумею: інакш і быць не магло ў асяроддзі, кожны прадстаўнік якога – сцверджаная асоба са сваім розумам, сваім вопытам, ды і сваімі мэтамі. Для мяне асабіста, напрыклад, вялікае значэнне мае вось які прынцып: “Дай, Божа, вытрываць тое, што змяніць не магу, мужнасці – змяніць тое, што магу, і мудрасці адрозніваць дабро ад зла”. А для многіх калег, мяркуючы па ўсім, ён непрымальны. Зусім не здзівіла, не збянтэжыла мяне і рэакцыя залы таго з'езда на яшчэ адну спробу выклікаць роздум. Калі мне было дадзена слова з месца, я невыпадкова прыгадаў кардынала Вышынскага, які падчас польскіх падзей 1956 года ролю інтэлігенцыі вызначыў наступным чынам: як сабака, залізваць раны народу. Многіх, магчыма, пакрыўдзіла параўнанне з сабакам. А дарэмна. Калі мы сапраўды дбаем пра народ, а не толькі натхнёна пра гэта пішамі гаворым, то гэта якраз найбольш патрэбны і дзейсны цяпер спосаб праявіць сваю дбайнасць і любоў. Мне асабіста цяжка верыць у тое, што маюць сэнс дзеянні зусім іншага характару: не гаючай слінаю пакрываць, а вярэдзіць раны, якія ёсць, і наносіць яшчэ больш. Дзеля чаго гэта — няхай трывае гэты “сляпы, як крот”, можа, так загартуецца да змаганняў за ідэі новыя, намнога святлейшыя ад тых, што мы прапагандавалі раней?

І на гэта не можа быць іншай рэакцыі, акрамя той, што зацяміў з левай кішэні наш агульны знаёмы: “Гэтыя сённяшнія дэмакраты ад інтэлігенцыі — былы тыл бальшавікоў — мяне ўжо “дасталі”..

**Усё ж такі гэта сфармулявана рэзка. Не баіцеся, што кагосьці пакрыўдзіце!**

Дапускаю, што і цяпер, як тады, нехта будзе на мяне крыўдзіцца. Але што зробіш, калі бязглузда прапаноўваць: “Давайте говорить друг другу комплименты”, а на самім з'ездзе славіць партыю і рапартававаць пра высокія дасягненні ва ўсіх жанрах, уключаючы трыбунныя.

Справы нашы змяніцца могуць не ад хваласпеваў і дзяжурных кампліментаў, а толькі ад поўнай шчырасці, прынцыповасці, справядлівай крытычнасці, што, пэўна ж, прадугледжвае ўзаемапавагу і павагу да арганізацыі, у якую ўсе мы ўступалі добраахвотна і, здаецца, ганарыліся прыналежнасцю да яе. Дык вось цяпер як ніколі нам даводзіцца несці адказнасць за гонар саюза – яго цяжка захоўваць і вельмі лёгка здратоўваць. Як бы там ні было, а вельмі прыкра чытаць у газетах “адкрыцці/выкрыцці” саміх пісьменнікаў, што саюз наш – гэта не што іншае, як “літаратурныя марыянеткі”, “зборышча абываценяў”, “асінае гняздо”...

Па вялікім рахунку, нічога дзіўнага. “Абываценлі”, “восы”, “марыянеткі”, “прыкарытнікі”, “прыстасаванцы” – гэта персанажы класічных твораў сацрэалізму, якіх неабходна было выстаўляць на пасмешышча перад усёй прагрэсіўнай грамадскасцю. Але ў дадзеным выпадку ствараецца хіба што "камедыя для тых, хто не ведае". А нам жа, з сярэдзіны, вядома хоць і не ўсё, але многае. І абмяркоўваць гэта мы так ці інакш павінны разам, у адпаведнасці са сваімі, няхай сабе і сціплымі магчымасцямі. Рашэнні прымаць – таксама. І вынікі атрымаем тыя, да якіх калектыўна імкнемся і якіх рэальна заслугоўваем.

**— Але пісьменнікі — гэта не шэрая маса.**

— Пэўна ж, мы ніяк не маглі абмінуць надзвычай цікавы і важны аспект-- феномен “беларускай эліты”. Я ўжо не першы год спрабую для сябе раскрыць яго: назапашваю факты, раблю выцінкі і выпіскі з перыядычнага друку, занатоўваю рэфлексіі. Нешта ўжо пачынае фармулявацца... Але гэта прадмет асобнай, грунтоўнай гаворкі. Зараз хачу толькі падкрэсліць, што самы багаты матэрыял можна было атрымаць на апошнім з'ездзе пісьменнікаў.

**І што канкрэтна вы тады адзначылі?**

Мяне кранула перш за ўсё гаворка пра Акадэмію бессмяротных на фоне таго самазабыцця, з якім некаторыя выступоўцы прамаўлялі ад імя народа і да народа.

Не менш уразіла і прадэманстраваная многімі калегамі страта арыенціраў у нацыянальна-духоўным самавызначэнні – канкрэтна, у тым, што датычыцца суадносін нацыянальнага з інтэрнацыянальным пры новым светаўладкаванні, якое, падкрэслім, грунтуецца на адмаўленні нацыяналізмаў. А гэта ж азначае, што калі на пачатку 1990-х гадоў нацыянальная ідэя не толькі была аб'ектыўна непазбежнай, але і ўспрымалася як рухавік развіцця, дык на пачатку 2000-х яна аб'ектыўна гасіцца працэсамі інтэграцыі, прычым не з Расіяй... Для нас, адпаведна, ускладняецца як ніколі праблема суадноснасці аксіялогіі нацыянальнай з т.зв. універсальнай. Іншымі словамі, наіўна чакаць, што так званы еўрапейскі літаратурны кантэкст прыме (як роўнавартасныя з творамі прызнаных французаў, немцаў, італьянцаў) творы Купалы і Коласа, Багдановіча і Куляшова, Мележа і Танка, ды і жывых, якія таго заслужылі.

Ёсць і яшчэ надзвычай сімптаматычная з'ява: у нашым асяроддзі заўсёды знаходзяцца тыя, каму важна сябе выстаўляць беларусам, “шчырэйшым”, “свядомейшым” за іншых. Аказваецца, гэта зусім нескладана: выгукні гэта як можаш мацней, каб нейкі там Іван, продкі якога па абедзвюх лініях спрадвеку тутэйшыя праваслаўныя зямлі берасцейскай, зніякавеў, адчуць сябе так, быццам яго ў Беларусь прывезлі з інкубатара чужадальніх земляў. Хіба не фенаменальна? Асабліва, калі падобнае праяўляецца на з'ездзе.

**— І як думаеце, на гэтым з'ездзе ўсё будзе аналагічна ці інкш! За год мала што змянілася.**

— Сапраўды, небяспечна, калі паўторыцца тое, што ўжо праходзілі. Асцерагаючыся гэтага, на пасяджэнні Рады, якое праходзіла ў сакавіку месяцы, я, дарэчы, галасаваў супраць таго, каб зноў збіраць з'езд. Праўда, аказалася, што пагасіць канфлікт немагчыма. Так што іншага выйсця сапраўды няма.

**— Што лічыце самым важным, каб з'езд усё ж такі вырашыў усе праблемы!**

— Спадзяюся, што не будуць, як той раз, замоўчвацца рэальныя факты, хавацца сапраўдныя намеры, а замест гэтага -- навязвацца ўмоўныя, падвярстаныя ацэнкі сувязяў між фактамі і з'явамі з іншых сістэм каардынат. У такім выпадку зноў ніхто ніякай віны за сабою не прызнае; пачнецца турнір віційства на тэму: “Ва ўсім вінаваты -- чужы і багаты -- дзядзька...”; а нават крышачку адрозныя матывы будуць пакрывацца тупатам і свістам; групоўкі, праўда, зробяць гучныя заявы, але яны будуць мець толькі эфект выпускання пары, пшыку... Між іншым, групоўкі прайгравалі з-за таго, што загадзя пераацэньвалі свае сілы.

**— Што, на вашу думку, перш за ўсё трэба абмяркоўваць на з'ездзе і як вырашаць!**

— Недапушчальна паўтараць таксама памылкі, якія даліся ў знакі апошнім часам. Па-першае, рада ў такім колькасным складзе не можа быць дзейснай. Асабліва калі абвяшчаць пасяджэнні за гадзін дзесяць да пачатку. Тады яна альбо фігавы лісток, альбо перашкода нармальнай дзейнасці. Па-другое, намесніка(ў), як і старшыню, выбіраць з'ездам, дакладна абумовіўшы абавязкі і правы. Па-трэцяе, бессэнсоўна ствараць сакратарыят, функцыі і паўнамоцтвы якога не рэгламентаваны. Ілюструю на прыкладзе: секцыяй вылучаюцца дзве кандыдатуры на атрыманне дзяржаўнай прэміі; між тым пры абмеркаванні на радзе яны ўвогуле не разглядаюцца – сакратарыят адхіліў, хоць ні статут, ні існуючыя устанаўленні іншыя такіх паўнамоцтваў яму не давалі.

Вельмі непажадана таксама распальваць жарсці, бэсціць тых, хто сябе праявіў не так, як грамада спадзявалася. Персанальныя інтарэсы і бедавальнікаў, і ратавальнікаў павінны быць падпарадкаваны інтарэсам саюза, яго справам. Натуральна, што будуць уздымацца пытанні, звязаныя з утварэннем выдавецкага холдынга. Аднак хто б мог аспрэчваць правамернасць гэтай з'явы ў ідэі? Толькі той, хто раней знайшоў іншы варыянт выйсця з крызісу і практычна даказаў яго эфектыўнасць. А такіх сярод нас няма.

Самая нервовая рэакцыя будзе на кадравыя рашэнні ў холдынгу. Ды яны ж па-за кампетэнцыяй саюза. Нам з вамі можа не падабацца той ці іншы новы кіраўнік, рэдактар, але нашы сімпатыі-антыпатыі не мяняюць справы, бо гэтаксама ж не падабацца мог і ранейшы – цяпер нашай думкай цікавіліся ў той самай меры, як і раней; падобнае працягнецца і ў далейшым. А правільнасць прызначэнняў і нашых меркаванняў выверыцца часам, дакладней — канкрэтнымі вынікамі, як гэта было заўсёды.

**— Па-вашаму, усё можа вырашыцца памяркоўна. І спадзеяцеся, што так будзе!**

— Маю і пэўныя перасцярогі:

хопіць працяглых гуканняў-галашэнняў і мімаходзь галасавання;

хопіць палымяных прамоў, насычаных паўпраўдай, горшай за хлусню;

хопіць апаратных гульняў;

хопіць творчаму саюзу блытацца ў справах нятворчых;

хопіць дэманстраваць масавую закамплексаванасць на правадырстве, прароцтве, абранніцтве...

**— А канкрэтныя прапановы маеце!**

— Прапановы таксама:

давайце ўвесь час памятаць пра спадчынную памяркоўнасць і людскасць;

давайце не крыўдаваць на тое, што як агулам, так і паасобку, з невялікай розніцай, нас лічаць не больш чым “значнымі ў нязначных маштабах” – давайце пераадольваць гэта;

давайце згадаем сакраментальнае пытанне вялікага папярэдніка наконт сварак і звадак, калі “ўсе мы разам ляцім...” пакуль што не “да зор”

*Мірскі замак цалкам суадносіцца са сваёй назваю, ён не пужае людзей ні прывідамі, ні дзіўнымі гукамі, ні загадкавымі з'явамі. Але ён мае нейкую магічную сілу, заварожвае людзей. Вежы замка, што сённяззяюць чарапічнымі дахамі і белымі ваканіцамі, здалёк клічуць да сябе падарожных і турыстаў. У 1992 годзе адчынілася экспазіцыя Паўднёва-Заходняй вежы і цяпер штодзень замак наведвае да 250 чалавек. Калі ў памяці ўсплываюць відарысы Мірскага замка, якім ён быў яшчэ дваццаць год таму, увачавідкі разумееш, што замак быў сапраўды выратаваны са стану, блізкага да зруйнавання. Маё пакаленне, а тым больш бацькоўскае, памятаюць расколатую на некалькі частак вежу, якая пагражала абваліцца на галовы неўтаймаваных прыхільнікаў спадчыны. Тым не менш усе мы, і дарослыя, і дзеці, без боязі лазілі праз выбітыя вокны ўнутр замка, падніжаліся па вінтавых лесвіцах, многія з якіх не мелі ўсіх прыступак і заканчэння.*

*Сённяшні Мірскі замак — адзін з найбольш магутных рэстаўрацыйных аб'ектаў Еўропы. Такіх вялізных помнікаў архітэктуры ў гэтай частцы свету захавалася не так ужо многа. Увага да яго сусветных ахоўваючых арганізацый нязменна вялікая. Пра гэта сведчыць тое, што ў 1993г. рэстаўрацыйныя работы ў Мірскім замку былі ўзнагароджаны дыпломам уплывовай арганізацыі "Evropa Nostra", і тое, што, нарэшце, пасля доўгіх перамоваў, у снежні 2000г. "Замкавы комплекс Мір" быў уключаны ў спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Зусім нядаўна Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура ўручыў міністру культуры Беларусі Л.Гуляку пасведчанне аб гэтым, а на замку была ўрачыста адкрыта адпаведная дошка. На жаль, ганаровыя ўзнагароды не ў стане вырашыць усе праблемы, якія паўстаюць сёння перад Уладзімірам Пракапцовым, дырэктарам Нацыянальнага мастацкага музея, філіялам якога і з'яўляецца Мірскі замак. Гэта не толькі першачарговыя пытанні рэстаўрацыі, але і неабходнасць будаваць прыстасаваныя падземныя гаспадарчыя памяшканні, ацяпленне будынка і стварэнне ў новых залах экспазіцый. Гэтыя пытанні разглядалі на выязной калегіі Міністэрства культуры, якая адбылася 31 ліпеня ў Мірскім замку. Усе ж просьбы і парады па рэканструкцыі замка за апошнія дзесяцігоддзі зоймуць, відаць, не адну таўшчэзную папку.*



# ЗАМАК ТРОХ МАГНАТАЎ

***1 верасня ў Мірскім замку — Дзень беларускага пісьменства***

## Колькі будуецца, столькі і рэстаўруецца

За пяцьсот гадоў свайго існавання замак шматразоў разбураўся, потым зноў аднаўляўся, рэстаўраваўся і перабудоўваўся. Мірскі замак паспеў перажыць трох гаспадароў (Іллінічаў, Радзівілаў і Святаполк-Мірскіх). У тоўшчы яго сцен і на паверхні, сярод архітэктурных упрыгожанняў засталіся адзнакі трох архітэктурных стыляў (готыкі, рэнесансу і барока). Гатычны выгляд замак набыў пры валадаранні ім князёў з роду Іллінічаў з канца 15 ст. Але ўжо ў 16 ст. замак разам з тытулам графа Свяшчэннай Рымскай "імперыі на Міры" (дадзены імператарам Фердынандам II аднаму з Іллінічаў) быў завешчаны Мікалаю Кшыштафу Радзівілу "Сіротку", які пачаў перабудоўваць замак згодна з густамі эпохі рэнесанса. Тут з'явіўся "італьянскі сад", да паўночнай і заходняй сцен быў прыбудаваны трохпавярховы палац (рэстаўрацыя якога зараз і завяршаецца). Праўда, замку няшчасціла на спакойнае жыццё. У 17 ст. яго разбуралі войскі рускага цара Аляксея Міхайлавіча і шведы. Не паспелі гаспадары замак адрамантаваць, у пачатку 18 ст. ён згарэў ад нападу шведскага караля Карла XII. На працягу 18 ст. замак адбудоўваецца наноў. Але ў канцы 18 ст. замак пашкодзілі ваенныя дзеянні расійскіх войскаў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі замак быў узяты штурмам рускімі войскамі. Натуральна, ад унутранай аздобы пакояў замка мала што засталося, знікла большая частка цікавейшых калекцый жывапісу, зброі, мэблі, посуду. Чарговыя страты замку прынеслі баявыя дзеянні рускіх і французскіх войскаў у вайне 1812г.

Трэція гаспадары Святаполк-Мірскія набылі Мірскі замак у 1891г. Князь Мікалай пабудаваў новы палац, заклаў пейзажны парк, але сам Мірскі замак пакінуў без увагі. Але новы палац згарэў падчас першай сусветнай вайны. Нашчадку князю Міхаілу давялося заняцца рэстаўрацыяй замка. Апошні ўладар марыў аднавіць замак у першапачатковым выглядзе. Ён жыў у адзінай ацалелай вежы, наладзіў тут сталярныя майстэрні, адкрыў непадалёк бровар. За час валадарання (а гэта 21 год з 1917 да смерці ў 1938 годзе) князь прыбудаваў звонку невялікую вежу, практычна аднавіў усходні корпус палаца і дзве вежы.

Далейшая гісторыя Мірскага замка была досыць сумнай. Да пачатку вайны ў замку працавала вытворчая арцель. У час вайны да 1944г. тут знаходзіўся лагер для ваеннапалонных і гета. Калі немцы адыходзілі, драўляны на той час пасёлак Мір згарэў; і жыхары перасяліліся ў пакоі замка больш як на дзесяць год. Страты ад такога кватаравання сумнавядомыя: цалкам згубіліся аздобы інтэр'ераў. Як і кожная значная народная ўласнасць, Мірскі замак быў у 1947г. узяты пад ахову дзяржавы і пры гэтым разрабаваны сваімі ж валадарамі...

## Праекты мірскай рэстаўрацыі

Ідэй па прыстасаванню будынінына замка, якая столькі гадоў прастаяла безгаспадарна, хапала. Часовая кансервацыя 1968г. пытанне вырашыць не магла. Замак пуставаў, усе прылады кансервацыі мясцовыя жыхары паступова разбіралі на гаспадарчыя патрэбы. А дзяржаўныя ўлады тым часам "нараджалі" ідэі. Напрыклад, прапанаваны аўтарскім калектывам пад кіраўніцтвам архітэктара В.Калніна праект прыстасавання замка пад мастацкую вучэльню, у 1982г. праект удакладнілі: па суседстве з замкам мяркуецца закончваўшы ўзводзіць карпусы рэстаўрацыйнай вучэльні, а старажытныя муры замка з савецкай шчодрасцю і размахам меркаваліся "прыстасаваць" для практыкавання навучэнцаў.

І толькі 1986г. змяніў лёс замка. Навуковым кіраўніком распрацоўкі і ажыццяўлення праекта рэстаўрацыі замка быў прызначаны архітэктар, былы старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Беларусі Дзмітрый Бубноўскі (сам ён родам з Міра), і рэстаўрацыйнымі работамі занялося вытворчае аб'яднанне "Белрэстаўрацыя". А прарабам (нязменным з тых часоў) застаецца Браніслаў Кракавецкі. Дарэчы, асоба вельмі цікавая і прыкметная. Спадар Кракавецкі не толькі пачувае сябе гаспадаром на замкавым будаўніцтве, але і сапраўды часта "выратоўвае" праекціроўшчыкаў, апярэджвае іх ва ўдасканальванні рэстаўрацыйных работ. Калі з 1987г. замак стаў філіялам Нацыянальнага мастацкага музея, сродкаў яшчэ хапала, каб аднаўляць вежы і адкрыць першую экспазіцыю (адбывалася гэта пры былым дырэктары Ю.Карачуне (1931-1997), пасля падняць літаральна з руінаў два карпусы. У 80-я краіна жыла ідэямі аднаўлення гісторыка-культурных каштоўнасцяў бацькаўшчыны. За апошнія два дзесяцігоддзі тутпапрацавала многа дабрачынікаў. І студэнцкі спецатрад "Брама", і інтэрнацыянальны атрад асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА. Доўгі час двор замка быў сумна парослы бур'яном, а дырэкцыя з некалькіх чалавек тулілася ў часовай драўлянай будачцы пасярод двара.

## Мы маем магчымасць рэстаўраваць арыгінал...

Гэта словы Дзмітрыя Бубноўскага, які засведчыў, што замку нават пашчасціла, што яго не аднавілі ў 20-30-я гады, калі многія еўрапейскія старажытнасці проста перабудоўвалі без гістарычнай дакладнасці. Дарэчы, пазіцыя гістарычнай дакладнасці стала важнай адзнакай у рэстаўрацыі самога замка, і аднаўлення яго інтэр'ераў. Так гатычныя фрагменты цэглы заказваліся ў Прыбалтыцы, рэнесансныя зрабілі ў Віцебску. З гістарычнай дакладнасцю аднаўляюцца вінтавыя лесвіцы, сутарэнні, дах, вентыляцыйныя калодзежы, вокны, каваныя краты, столі ў асноўных экспазіцыйных залах. А на чарзе ўжо і аднаўленне кафляных печаў па старажытных узорах, а надалей і мэблі. Замку сапраўды пашчасціла, што ім займаліся і займаюцца рупліва спачатку спецыялісты "Белрэстаўрацыі", зараз "Мінскрэстаўрацыі", а праектныя дакументы рыхтавала унітарнае прадпрыемства "Саюзрэхсервіс". Пасля пятнаццаці гадоў работ па аднаўленні замка, ён выглядае не менш старажытным, чым сто год таму, велічнай магутнасцю стагоддзяў павявае ад яго сцен і ўнутраных пакояў.

Але замак будзе не толькі музейным экспанатам, ён стане жывым аб'ектам. З 70 адноўленых у будучым залаў частку мяркуецца адвесці для зменных выставаў і продажу мастакоўскіх твораў. Дырэктар НММ У.Пракапцоў марыць, каб у гэтыя залы сталі чэргі з мастакоў, такія ж вялікія, як і ў асноўныя залы музеяў Мінска. Плануецца тут і гатэль, дзе можна будзе размесціць да 48 чалавек, залы для перагавораў і пасяджэнняў, кавярня і рэстаран, канферэнцзала з сучасным абсталяваннем для сінхроннага перакладу, продаж сувенірнай прадукцыі, турыстычны цэнтр і г.д. Праз парадныя дзверы былога арсенальнага пакоя можна будзе па пешаходным мосце перайсці праз вал да "італьянскага" сада. Мост пабудаваны, але з-за непатрэбнасці пры сённяшнім стане фінансавання рэстаўрацыі ўжо пачаў разбурацца. Частковай перапланіроўкі немагчыма пазбегнуць пры функцыянальным прыстасаванні старажытных пакояў пад сённяшнія патрэбы. Так, напрыклад, у Паўночным корпусе ўжо адведзена месца для сучаснай лесвіцы і пабудавана ліфтавая шахта, неабходная для пад'ёму інвалідаў, экспазіцыйнага матэрыялу. Яна таксама падзеліць залы на музейную частку і апартаменты.

## Першачарговыя пытанні

Тое, што рэстаўрацыя за апошнія пятнаццацьгод дала немалыя вынікі, не можа не цешыць. Але -- застаецца і, галоўнае, штогод выспявае новая праблема... Насамрэч, складана сказаць, якое пытанне на сённяшні дзень стала першачарговым для Мірскага замка. І, на жаль, акрамя праблем дабудовы падсобных памяшканняў, стварэння новых экспазіцый, з'явілася новая складанасць — неабходна захаваць тое, што ўжо адрэстаўравана. Без належнага дагляду і фінансавых укладанняў замак пачне разбурацца. І будзе не да жартаў, калі пацячэ ўвосень дах над Паўночным корпусам. Прычыны тут у недасканалай тэхналогіі пакрыцця дахоўкі чарапіцай, якую клалі сем год таму. Не вырашана пытанне з ацяпленнем. Каля замку пабудавана, але не дзейнічае кацельная. Пакульне будуць ацяпляцца памяшканні Паўночнага корпуса, немагчыма распачынаць работы непасрэдна над экспазіцыямі. Супрацоўнікі музея ўжо сутыкнуліся з праблемай захавання экспанатаў у Паўднёва-Заходняй вежы, дзе ўзімку сцены не выратоўваюцьад халадэчы. Там размесціліся толькі рэчы, якія не баяцца маразоў — кафля, кераміка,

камяні. Частка зброі ў шкляных закрытых стэндах з-за розніцы тэмператур пашкодзілася. Тое ж, што маркуецца экспанаваць у Паўночным корпусе замка, патрабуе і адпаведных умоваў: тэмпературы, вільготнасці, дагляду, захавання. Тым больш толькі ад 20 працэнтаў экспанатаў будуць рэканструкцыямі, астатнія — сапраўдныя старажытныя рэчы.

## Ці дапамогуць нам суседзі?

Недапушчальна, каб такі аб'ект як сярэднявечны замак, быў насычаны пераважна копіямі ці муляжамі, — сказала доктар мастацтвазнаўства Надзея Высоцкая ў выступленні на калегіі Міністэрства культуры, прысвечанай Мірскаму замку. За апошнія пятнаццаць год Нацыянальны мастацкі музей назапасіў значную колькасць мастацкіх твораў і музейных рэчаў, якія ў будучым зоймуць месца ў залах Мірскага замка. Але іх недастаткова. Дырэктар музея У.Пракапцоў ужо не адзін раз звяртаўся да дырэктараў іншых музеяў Беларусі з просьбай перадаць старажытныя рэчы на дэпазіт для экспанавання ў Мірскім замку. Аднак на Беларусі сапраўды няшмат захавалася падобных рэчаў, не кожны музей мае іх у карыстанні, а калі ўжо валодае, то сцеражэ і не аддае наватдля Мірскага замка. На сённяшні дзень існуе пісьмовая дамоўленасць толькі з дырэктарамі Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея Суворава, Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея і Мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой" адносна перадачы некалькіх гармат і іншых музейных прадметаў рознай тэматыкі.

Ёсць яшчэ адзін шлях — купляць старажытнасці на аўкцыёнах ці ў антыкварных крамах і не толькі на Захадзе, але і ў Расіі, на Беларусі. На жаль, музей не мае для гэтага сродкаў. Некалькі год таму ў Міністэрстве культуры існавала крыніца для адпаведнага фінансавання, у цэнтралізаваных сродках было закладзена два артыкулы: на рэстаўрацыю і набыццё найбольш цікавых рэчаў для музейных экспазіцый. Сёння гэтыя артыкулы не існуюць. А для прыкладу, адзін толькі дрэсуар (шафа для паказу і захавання прыгожага посуду ў сталовай) можа каштаваць каля 20 тысяч даляраў.

Можна марыць, як мы будзем патрабаваць вывезеныя ў розныя часы з Беларусі калекцыі старажытнасцяў. Але, на жаль, нерэальна не толькі вяртанне рэчаў з Масквы, Варшавы, Кракава, Вільні, іншых еўрапейскіх гарадоў, але складана атрымаць нават дазвол для знаёмства з імі ў спецсховішчах, на фатаграфаванне. Падчас дзён культуры Расіі ў Беларусі была прапанова першаму намесніку міністра культуры Расіі Н. Л. Дзяменцьевай узаемнага абмену паміж Дзяржаўным гістарычным музеем Расіі і Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі (напрыклад, слуцкія паясы на карціны рускіх мастакоў). Расія згодна разгледзець гэта пытанне. Справа засталася за канкрэтнымі крокамі. Тэарэтычна існуе і магчымасць гэткім жа ж чынам абмяняць некалькі твораў з музея хаця б на адну італьянскую, нямецкую альбо французскую шпалеру 18 ст., якіх не адна сотня захоўваецца ў фондах Эрмітажа, як прапанавала на калегіі Міністэрства культуры Н.Высоцкая. Дапамагчы тут магло б і Міністэрства замежных спраў Беларусі, і спецыяльная камісія па справах ЮНЕСКА, якую ўзначальвае пасол па асобых даручэннях У. Шчасны. Нягледзячы на тое, што адмова прэтэнзіям на законнае валоданне замацавана ўжо заканадаўча ў большасці краінаў свету, трэба рабіць захады, і не аднойчы. Надзея, як вядома, памірае апошняй.



## Віртуальная прагулка па экспазіцыйных залах

Экспазіцыя Паўночнага корпуса стане для Мірскага замка асноўнай і самай грунтоўнай. Яна ахопіць тры паверхі, будзе мець два маршруты для наведвальнікаў: звычайны і асобны. З розных назапашаных Нацыянальным мастацкім музеем рэчаў і дакументаў складуцца залы гісторыі трох асноўных валадароў замка. Складаней справа са сталовай 16-17ст, сенцамі-гардэробнай, парадная, партрэтнай залай 18 ст. Давядзецца па старажытных прыкладах складваць кафляныя печы, вырабляць копіі карэліцкіх шпалераў альбо абцягваць сцены шоўкам, залаціць кесоны столяў, выкладваць складаны малюнак падлогаў. Сапраўдныя партрэты магнатаў будуць перамяжацца копіямі, муляжамі гравюр Ляйбовіча, мапаў Еўропы розных часоў з абазначэннем мястэчка Мір, для якіх будзе адведзена асобная зала, глобус 17 ст., частка зброі, даспехаў, мэблі, касцюмаў. Складальнікі экспазіцыі ганарацца сапраўды унікальнымі экспанатамі, сярод якіх двухбаковы сцяг 18 ст., пячатка Радзівілаў 18 ст., розны посуд, вырабу Расіі, Германіі, Беларусі 18—19 стст., пейзажы-копіі 18ст. па ўзорах карцін 15-16ст. (Рафаэля, Тыцыяна), падсвечнікі...



Пяць пакояў замка адновяцца ў сваім першапачатковым выглядзе. Напрыклад, сенцы, дзе будуць стаяць скрыні-кесонэ (па італьянскім ўзоры), куфар, кандэлябры, даспехі і ўзбраенне 17-18 ст. На сценах будуць копіі карэліцкіх шпалераў, паляўнічыя трафеі — рогі лася, аленя, нацюрморты і алтарныя карціны. Сталовая набудзе ляпную пазалоту і кесонавыя столі, вялікі стол літарай "П", пяцьдзесят крэслаў 17-18 ст. і буфет-дрэсуар па ўзоры 16 ст., адрэстаўраваныя падсвечнікі 17ст. Плануецца стварыць у замку кабінет для чытання (Нацыянальная бібліятэка Беларусі перадала Мірскаму замку 700 кніг і гравюры 17-20 ст.); прахадныя залы; парадную партрэтную залу, залу заходнееўрапейскага мастацтва.

У экспазіцыі мірскага замка павінна найперш панаваць старажытнасць, сама гісторыя будынка і культуры магнацкіх родаў Беларусі, вырабы беларускіх майстроў, жывапіс і графіка ад 17ст. да сённяшняга часу. Навейшая гісторыя была да Мірскага замка няўдзячная. І месца Падзеям Вялікай айчыннай вайны ў гісторыі замка адведзены два пакоі першага паверха Паўночнага корпуса і адзін у Паўночна-Заходняй вежы. Пераважна гэта будзе камп'ютэрная версія. Адну са сцен унутры Паўночнага корпуса пакінулі проста закансерваванай, па ўсёй яе даўжыні можна пабачыць усе адзнакі перабудоў і стыляў, якія перажыў замак, вокны ад адзінарных рэнесансных да баракальных дубэльтаў, прыбіральні тых часоў са своеасаблівай старажытнай каналізацыяй. Наведвальнікаў зацікавяць і матэрыялы, што распавядаюць пра рэчы з Мірскага замка, якія захоўваюцца ў калекцыях іншых музеяў свету, архівах, бібліятэках. Спіс гэты немалы: Санкт-Пецярбург, Масква, Саратаў, Тула, Казань, Калуга, Кракаў і іншыя гарады Польшчы, музеі і бібліятэкі Украіны, Венгрыі, Літвы, Латвіі, Германіі, Англіі, Італіі.

Аб'ектыўна Мірскі замак не набудзе выгляд паўнавартаснай старажытнай раскошы. Магчымы і іншы шлях. Калі экспанаты стануць самі сцены, старажытнасць кожнага рыштавання і скляпення. Захаваны ў першаснасці, без нагрувашчвання дадатковага матэрыялу, Мірскі замак набудзе каштоўнасць цэласнасці, не ператвараючыся пры гэтым проста ў рамантычныя развалiны.

## Мары і рэальнасць

Рэчаіснасць заўжды жорстка прабіваецца праз няздзейсненыя яшчэ мары. Як сказаў Д.Бубноўскі, сёлетні год – апошні, калі мы можам дазволіць сабе весці няспешную рэстаўрацыю. Сцены ўзведзены. Прадумана і канцэпцыя напаўнення будынка экспазіцыямі, якія не могуць здзейсніцца з-за адсутнасці цяпла і электрычнасці. Для абслугоўвання такой вялікай гаспадаркі, як замак, будзе патрабавацца 250 чалавек, сёння тут працуюць 23. У будучым сюды падключыцца абслугоўванне 26 гектараў сада і парка з сенакасілкамі і іншай тэхнікай. Неабходна ў хуткім часе пабудаваць падземны ўзровень, у якім размесціцца гэтая тэхніка, пральня, кухня, падсобныя памяшканні. Такое будаўніцтва нельга расцягваць на гады. А значыць, патрабуецца вялікае мэтанакіраванае ўкладанне грошай, у дадзеным выпадку 3,5 мільярдаў рублёў. Для стварэння экспазіцыі неабходна 2,5 мільёна долараў. Стан фінансавання аб'екта "Мірскі замак" самы несуцяшальны. Замкаваму комплексу выдаткавана сёлета 360 мільёнаў рублёў Міністэрствам культуры, у дадатак да гэтага – 272 мільёны рублёў спецыяльным распараджэннем Прэзідэнта Беларусі. Але для таго, каб уклася́ся ў прызначаныя тэрміны заканчэння рэстаўрацыі і адкрыцця асноўнай экспазіцыі ўжо ў 2005 годзе, патрабуецца фінансаванне ў 7-8 разоў большае... Спецыяльны грант ЮНЕСКА — 25 тысяч долараў — даўно быў выкарыстаны, іншых укладанняў не чакаецца. Замежных інвестараў праект не набыў, спадзяванняў на нашчадкаў Радзівілаў ці Святаполк-Мірскіх няма. Прапанова адкрыць спецыяльны рахунак для асабістых укладанняў на Беларусі — справа бесперспектыўная. Не з-за таго, што беларусы так непаважна ставяцца да спадчыны, проста яны не маюць грошай. Перспектыва зарабляць з дапамогай продажу мастацкіх твораў, сувеніраў ёсць, але гэта патрабуе спецыяльнай ліцэнзіі, атрымаць якую няпроста. Адзінае выйсце ў гэтай сітуацыі — спецыяльная дзяржаўная падтрымка, асобны артыкул фінансавання. Несумненна, даведзены да ладу Мірскі замак будзе прыносіць немалы прыбытак як турыстычны і гістарычны аб'ект. Ён стане першым крокам для аднаўлення іншых беларускіх старажытнасцяў.

У сваім рашэнні выязная калегія Міністэрства культуры замацавала магчымасці дадатковага фінансавання Мірскага замка. Так, на наступны фінансавы год прадугледжваецца вылучэнне музею адпаведных выдаткаванняў на набыццё, кансервацыю і рэстаўрацыю музейных рэчаў, выраб мастацкіх копій і абсталявання, выданне прэзентацыйнага альбома, арганізацыю навуковых камандзіровак. Міністэрства культуры мяркуе звярнуцца ў Савет Міністраў з прапановай правесці ў красавіку 2003г. у Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцінаў рэспубліканскі суботнік, сродкі ад якога пайшлі б на рэстаўрацыю замкавага комплексу "Мір". А таксама разгледзець магчымасць устанаўлення дагаворных адносінаў з турыстычнымі фірмамі, каб вызначыць працэнтнае адлічэнне Нацыянальнаму мастацкаму музею для рэстаўрацыі і музеефікацыі замка.

## А пакуль што...

А пакуль што, старажытныя муры Мірскага замка ўздымаюцца велічна і сярод бялюткага снегу, і сярод пышнай зеляніны. Сюды возяць турыстаў – "памацаць" беларускую гісторыю. Ад гэтага музей на сваё развіццё атрымлівае толькі грошы ад уваходнай платы...

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# Па дарозе ў прыгожы зялёны сад

**З цыкла "За смугою"**

Янка СІПАКОЎ



Купалка чамусьці была вельмі вясёлая і радасная. Спявала песні, жартавала, смяялася. Пасля таго, як усвядоміла, што здарылася і што чакае яе наперадзе, яна зрабілася зусім іншаю, а шмат для каго нават дзіўнаю, незразумелаю — трэба суміцца, жальбаваць, а яна — спявае!

Вядома, усё гэта магло б і абысці, абмінуць яе, адну з трыццаці жонак князя, які ў поўнай сіле і здароўі нечакана памёр у сваёй спальні, каб не яна сама. Калі пачалі гаварыць, што нехта з яго самых улюбёных абранніц, але не рабынь, павінен разам з ім, пакінуўшы цела на зямлі, душою адляцець у ір'е, у неба, заселенае наўямі, каб ужо там шукаць той прыгожы зялёны сад, пра які мараць усе жывыя, яна сама першаю падахвоцілася на такую ахвяру.

Князь узяў яе на ловах. І прывёз да хорама ў паляўнічай торбе разам з дзічынаю — Купалка доўга потым чысцілася, абіралася ад птушыных пер'яў і пуху.

Яна не была самаю каханаю жонкаю князя, аднак самая маладая наложніца падабалася яму, і ён часцей як на іншых звяртаў на яе ўвагу і клікаў да сябе ў спальню. Дарэчы, і ў тую нешчаслівую ноч ён быў якраз з ёю...

Яна ж раўнавала князя да іншых жонак — да ўсіх без выключэння. Хацела быць у яго толькі адною. Ці не гэта і змусіла яе выскачыць паперадзе ўсіх — каб хоць там астацца з ім сам-насам...

Зразумела, што калі б яна не паспяшалася, нейкая іншая жанчына мусіла б пабрацца нанова з мёртвым князем і выправіцца з ім на сёмае неба, у прыгожы зялёны сад.

Аднак калі на гэты гонар напрасілася самая маладзейшая жонка, ніхто з маладзіц не запярэчыў ёй: хоча — няхай першаю будзе яна.

Толькі шмат хто з князевых жанчын не разумеў яе апантанасці і весялосці: і праўда, трапіць у рай у такім узросце — вялікая пашаноўля і радасць, але ж для гэтага давядзецца спачатку памерці, прыняць у сэрца дзіду, а потым, ужо мёртвай, згарэць да попелу на прагным, што галодны звер, агні. Што яна, дзівачка, не ведае і не ўяўляе, як будзе смылець яе маладое цела?! Як будуць гарэць бровы, вейкі, вусны?!

Дарэчы. а як гараць вочы? Хто ведае? Ніхто з жывых не ведае.

Таму калі Купалка, нібы прыспешваючы сустрэчу з прыгожым зялёным садам, спявала і весялілася, шмат хто паціскаў плячыма:

— Мусіць, у яе нешта з галоўкаю зрабілася... Князь жа мёртвы ляжыць... Ды і самую агонь хутка зацапуе... А яна з песнямі ходзіць.

Нават Забава, лепшая яе сяброўка сярод князевых жонак, якую разам з ёю, Купалкаю, князь часам пакідаў у сябе на ноч, неяк пацікавілася:

— Чаго ты такая шчаслівая? Радуешся, што памрэш?

— Сястрыца ты мая, я ж не памру, не знікну. Я ўсяго толькі пералячу з зямлі на неба. У ір'е. А там жа жывуць ужо іншыя душы, і я далучуся да іх. Хочаш, я вярнуся адтуль да цябе мятлушкай і раскажу як мы там жывём...

— Скажы мне, Купалка, — раптам уважліва паглядзела на яе Забава, — толькі шчыра скажы: ты ў нечым вінаватая, што князь памёр?

— Што гэта ты гаворыш, дурніца?! — аж сцялася Купалка. — Як ты магла падумаць такое, а я — зрабіць? Ні ў чым я не вінаватая. Проста мы тую ноч шчыра любіліся...

— Ты шчыравала?

І ён таксама.

— Дык ты, можа, думаеш, што і ў ір'і вы будзеце любіцца?

— Не, там мы будзем разам шукаць дарогу ў зялёны сад. А потым абдымемся крылейкам і будзем пырхаць, крыляць паміж дрэў.

Тыя дзесяць дзён, пакуль будуць шыць апошняе адзенне князю і рыхтаваць вялікую краду — пахавальнае вогнішча, якое спаліць іх абоіх і разам з дымам падыме іхнія душы ў ір'е, Купалка можа беззаглядна рабіць усё, што ёй толькі захочацца.

Яна, развітваючыся з жыццём, можа прасіць што хоча і ў каго хоча, і ніхто не павінен адмовіць ёй; ісці куды хоча і гаварыць, што жадае, і ніхто не мае права запярэчыць яе жаданню; можа піць віно і весяліцца, і ніхто не адважыцца асудзіць яе за гэта; можа пераспаць хоць з усімі мужчынамі наваколля, аднак ніводзін чалавек не будзе папракаць выбраную на ахвяру за юр.

Тым болей, што гэтыя яе дні — лічаныя і з кожным новым захадам сонца іх застаецца усё меней і меней.

Найперш Купалцы захацелася схадзіць у сваё роднае селішча, пабачыцца з мамаю і татам, сустрэцца з братамі і сёстрамі.

— Можа, падвезці канём? — спытаўся ў яе Вежа, князёў дружыннік, але яна адмовілася і пайшла ў селішча пехатою — навошта конь, тут жа недалёка...

Было вялікае сонца самага спелага лета над сцежкамі, была такая цеплыня, раскашаваліся такія спакой і ўтульнасць у ціхіх палях, а дрэвы, што выходзілі ёй насустрач, так ласкава і прыязна шумелі, нібы вітаючыся з ёю, што Купалка, міжволі забыўшыся на ўсё, заспявала:

— Дзякуй вам, дрэўцы мілыя, што вы ўпобачкі,

— Дзякуй табе, ветрык ласкавы, што пястуеш мяне,

— Дзякуй, сцежачка затравелая, што мне сцелешся,

— Дзякуй, сонейка маё добрае, што вакол мяне...

Да яе прычапіліся дзве прыгожыя-прыгожыя мятлушкі, ды такой незямной прыгажосці, ды такой афарбоўкі, якой яна да гэтага яшчэ не бачыла. Мятлушкі ляталі вакол яе — то залятаі наперад, то хаваліся чамусьці за яе спіну: Купалка тады толькі чула, як шамаціць таміхняе крылле. А часам яны нібыта ішлі побач з ёю — ці то справа, ці то злева. Мятлушкі весяліліся, дурэлі, гарэзавалі між сабою, часам чапалі і яе, нібыта хацелі пагаварыць, нешта расказаць ёй. Яны нават зазірнулі ёй у вочы — Купалка адчувала вейкамі, як перад ёю дрыжыць, калыхаецца паветра ад крыльцаў.

Тады яна загаварыла да іх сама:

— А ці ж не наўі вы, мае матылёчкі?

І тыя яшчэ дружней затрапяталі, крыльцамі, нібыта пацвярджаючы яе словы, быццам радуючыся, што іх зразумелі.

— А якая ж з вас мая душачка?

Адна з мятлушак падляцела яшчэ бліжэй да Купалчыных вуснаў, як усё роўна збіралася на іх сесці, каб лепей паказацца, а другая за кампанію трымцела крыллем непадалёку.

— А як жа ты з мяне, жывой яшчэ, вылецела?

Купалка, разглядаючы зблізку мятлушак, нечакана занепакоілася: яркая афарбоўка, што здалёку здавалася прыгожаю, цяпер выдавала змрочнаю, страшнаю: маленькае цельца, заціснутае з абодвух бакоў вялізнымі крыламі і цёмна-карычневымі трывожнымі плямамі, з блакітнымі, як маланкі, рысамі, з ярка-чырвонымі, што вогненныя сполахі, разводамі на канцах. І вочы: вялікія, чорныя, лупатыя вочы ўважліва і нахабна глядзелі на яе...

Раптам мятлушкі як спалохаліся чаго. Яны трывожна ўзмахнулі крыламі, сіганулі ўбок і тую ж хвілю зніклі з вачэй.

Купалка пачула нейкі невыразны шум, які даносіўся з неба. Яна падняла вочы ўгору і ўбачыла вялікую хмару варання, якое, узбуджана каркаючы і злосна клякочучы, у збітай кучы ляцела над начною савою. Хмара птушак прыціскала саву, якая ўдзень нічога не бачыла, як не да самай зямлі, і кожная з варон настойліва шукала магчымасці, каб падляцець бліжэй і балючай удзяўбнуць яе. А тая ўжо і не абаранялася — асуджана ляцела некуды, не звяртаючы ўвагі на варон.

Купалка памятае, як яшчэ зусім малою бачыла разам з бацькам гэткае ж самае дзіва. Бацька тады растлумачыў ёй:

— То ж наўі не прызналі чамусьці вось гэтую гаротную душу. Нечым яна там не спадабалася. Таму і дзяўбуць...

— А раптам і маю душу за што-небудзь не ўпадабаюць? — здрыганулася, як ад холаду, Купалка.

І хоць яна ведала, што ні ў чым не вінаватая, усё ж забаялася, што там, у ір'і, хто-небудзь не паладзіць з яе душою, і яе будуць дзяўбці, як вось гэтую саву...

Хоць гэта было і непрыемна ёй, Купалка з-пад далоні хацела яшчэ раз зірнуць на птушак, але яны якраз выпецелі на самае сонца — перад вачамі замерхацела патрывожнае крыламі святло, замітусіліся святлацені. Да таго ж глядзець на сонца было немагчыма, і яна адвярнулася.

І тут у сябе пад нагамі ўбачыла верабейку. Ён мітусіўся, бегаў, скакаў, прысядаў, як плісіца, — нібы таксама хацеў звярнуць на сябе яе ўвагу.

А ты што хочаш мне сказаць? — нервова ўсміхнуўшыся, спыталася Купалка. — Чым паможаш?

Усцешаны верабейка яшчэ болей замітусіўся — аж крылцы распусціў і пачаў мачаць іх у пыл на сцежачцы. А потым усхапіўся, узляцеў і сеў на бліжнюю да Купалкі галінку. І весела зачырыкаў — маўляў, памагу! памагу! памагу!

Аднак настрой яе пасля ўбачанага, не зважаючы на абяцанні верабейкі, заімгліўся, засмуціўся, засуміўся.

Але ўсё ж у сваё селішча, каб не вельмі засмучаць і так, мусіць, засмучаных бацькоў, Купалка прыйшла вясёлая і радасная — так яна захацела і такой зрабілася.

Маці, убачыўшы дачку шчасліваю, з дакорам, ківаючы галавою, спыталася:

— А чаго ж ты так радуешся, а мая ж ты крывіначка?

— Мама, я ж раней за вас траплю ў прыгожы зялёны сад, буду жыць у ім. І цябе з татам сустрэну там, калі вы прыйдзеце туды.

— А я ж, дачушка, сама хацела б сустрэць на сёмым небе цябе. Але ж ты на смертухну напрасілася. Агонь выбрала сабе...

— На дымы падымуць цябе, — гледзячы сабе пад ногі, сумна прамовіў і бацька. — З дымам ты ў ір'е паляціш...

— Татка, дык гэта ж добра. Радуйся. Гэта ж святочна, урачыста, радасна. Уяўляеш, усе глядзяць, усе зайздросцяць... Прыгожа...

Купалка гаварыла, але і сама не верыла ў тыя словы, якія казала, — быццам бы гэтак разважала не яна, а нехта іншы.

— Прыгожа то прыгожа, але ж ты, дачушка, паляціш. Назаўсёды ад нас паляціш...

Бацьку падтрымала і маці:

— Салавейка і той вяртаецца, а ты ж, крывіначка наша, не вернешся...

— Мама, і я ж буду вяртацца. На раданіцу, у наўі дзень прылячу да вас. А ты мяне пшэннічкамі пачастуеш, мае любімыя какуркі з граздынкамі спячэш. І я буду зюм з булак пальчыкам, як у дзяцінстве, выкалупваць...

— А я ж цябе кожны дзянёчак, кожну хвіліначку рада была б бачыць, — загаласіла маці і сціснула Купалку ў сваіх абдымках.

Загаласілі, запрычыталі, як па нябожчыцы, сёстры. Купалка ледзь стрымалася, каб не расплакацца разам з імі. Змусіла сябе ўсміхнуцца:

— Сястрыцы мае родныя, вы ж так хораша плачаце, што я і не ведаю, каго мне з вас сваёй жальніцай, плакальшчыцай сваёй выбраць. Кожнай з вас была б рада наша Жаля, наша Багіня Смутку. Прыходзьце ж вы ўсе карыць-плакаць па мне на краду маю вялікую, на вогнішча маё апошняе.

Расчуленыя сёстры загаласілі яшчэ жальчэй:

— А ў тваёй жа хатачцы ўсё змянілася, засмуціўшыся, стаіць скацінaчка, а цясляркі абыякія грукі-стукаюць — хата новая табе рубіцца, без ваконечак і не мшоная, і халодная — як лядоўніца. Але хутка ўжо так нагрэецца твая хатачка агнём-полымем і асветліцца — без ваконечак-зыркім вогнішчам...

Стаяў, апусціўшы рукі і галаву, бацька, паадварочвалі ўбок галовы браты — каб не было відаць іхніх слёз, усхліпвалі сёстры, амаль абвісла на Купалцы маці, якая ўжо толькі ўздрыгвала, паклаўшы галаву на даччыно плячо.

І тады яна засмяялася — шчыра, весела, нязмушана:

— Не тое спяваеце, мая радзіна! Я ж шчаслівая! І самі пачуйце, і верві ўсёй нашай перадайце, што Купалка, якая заходзіла ў сваё селішча па дарозе ў прыгожы зялёны сад, была вельмі шчаслівая!

А ў вёску ўсё ішлі і ішлі родзічы — і блізкія, і далёкія, і нават з гародняў, дзе яна ніколі не бывала. Ішлі, каб развітацца з ёю, а можа, і проста паглядзець на тую, хто, падняўшыся раней за многіх у ір'е, уславіць іхні род.

Гэта стаміла Купалку — столькі людзей, столькі руканняў, позіркаў, роспытаў, плачу — і яна, каб не пакрыўдзіць родзічаў, ласкавым голасам сказала:

— Я хачу да сваёй студзенкі, што на свяцілішчы, схадзіць. Трэба ёй жадаю скласці. І яе свяшчэннаю вадзіцаю ўмыцца.

Сёстры збіраліся пайсці з ёю, але яна ім адмовіла — не, я пайду, маўляў, адна...

Гэтую свяшчэнную крынічку ля свяцілішча Перуна яна вельмі любіла. Вада ў ёй была чыстая-чыстая і празрыстая. Яна нібыта кіпела — на дне яе, варочаючы, уздымаючы напаверх пясчынкі, якія ў кіпені здаваліся невагомымі, ад шматлікіх струменьчыкаў віравала ўся вада.

Купалка сустрэлася са студзенкай як з сяброўкаю. Нават абнялася з ёю — упала перад крынічкаю, і абаперлася рукамі на беражкі, і пацалавала яе ў ваду. І мокрымі вуснамі сказала:

— Дзень добры, сястрычачка! Я заўсёды радзела табою.

Убачыла з правага боку ад сябе чарпала, зняла яго з сукаватага калочка, зачэрпнула як не поўны коўш і з асалодаю пачала піць. Вада лілася ёй за каўнер, сцякала на невялікія бугаркі грудзей, мачыла сукенку, ад яе было холадна целу, аднак яна не зважала на гэта — усё піла і піла.

Вада са студзенкі была такая салодкая і смачная, як і ў дзяцінстве. Выпіўшы яе ўсю, Купалка залюбавалася чарпалам.

Коўшык быў далікатна выстружаны з суцэльнага дрэва. Ручка — галава яшчура, што заканчваецца вялікаю пашчаю, з якой тырчаць няроўна выразаныя зубы. З другога боку яна пераходзіць у вислізганую шыю — шыя якраз і трымае сам карэц, што нагадвае вялікую лыжку.

Па ўсім целе яшчура, як хвалі, як палоскі вады — слаі дрэва, якія так хораша праступілі пры рабленні чарпала. Яшчур — падводны Бог, Бог вады, калі падымаецца са свах цёмных глыбінь, калі яго раззлуюць, можа разбіваць хвастом лодкі і чаўны. Але ж гэта Бог, і яму заўсёды маліліся, а некаторыя моляцца і цяпер. Трымаюць удома маленькіх яшчураў — кракадзілаў. Усе на пальчыках ходзяць, калі такі жываіт выпаўзае да яды. Крый Бог, калі яшчур у каго-небудзь будзе дрэнна накормлены — чакай тады бяды.

Купалка яшчэ малая была тады, калі ў іх у хаце жыў такі змей. Кракадзільчык быў невялікі — пядзі са тры ўсяго. З чатырма кароткімі лапамі. Як яшчарка.

Яна не баялася яго карміць. Ды і ён прывык ужо да яе. Але ж неяк зусім нечакана жываіт памёр. Не выйшаў да яды, і яго, ужо акалелага, выкацілі качаргой з-за скрыні...

Ці не ён, яшчур, за невашта помсціць ёй? Ці не ён падахвоціў яе ўзысці на агонь?

Ад свяшчэннай крынічкі было зусім недалёка да ўрочышча Гульбішча. І ёй чамусьці вельмі заманулася схадзіць туды.

У лесе стаяла цішыня. Не шумелі дрэвы, не спявалі птушкі. Была якраз тая часіна дня, калі птушкі ўжо не спяваюць. І дрэвы таксама сцішваюцца.

Купалка ішла ціха, не спяшаючыся. Раз-пораз яна нагіналася, адшчыквала

(Працяг на стар. 13)

# Руплівы аратай і сейбіт на полі братэрства

30 жніўня выдатнаму балгарскаму паэту і вернаму сябру беларускай літаратуры Найдзену Вылчаву спаўняецца 75.

Як хутка праляцелі, прамчаліся гады! Помню, як ён упершыню прыехаў у Беларусь — каб спазнаць нашу краіну і наш народ, каб палюбіць нашу літаратуру і назаўсёды звязаць з ёю свой пісьменніцкі лёс. Тады яму было 30 з гакам, і быў ён аўтарам пяці кніг паэзіі, а цяпер — дваццаці пяці і многіх, многіх кніг перакладаў. З беларускай. З нашай паэзіі і прозы. Амаль сто імён беларускіх майстроў слова прапісаліся, дзякуючы Найдзену Вылчаву, у братняй літаратуры за Дунаем: ад Гусоўскага, ад Багушэвіча і Цёткі, ад Купалы, Коласа і Багдановіча — да сённяшніх маладых. Якая вялікая, таленавітая і натхнёная аратайская праца на полі дружбы! Які цудоўны плён і які спажыўны для душы хлеб з тых беларускіх каласоў, якія ён вырасціў на роднай ніве, пад высокім балгарскім небам.

Дзякуем, дарагі сябра! Дзякуем, слаўны паэце! Доўгіх гадоў жыцця табе — у думках пра Бацькаўшчыну і пра Беларусь! — і новых цудоўных кніг!

Ніл ГІЛЕВІЧ



Найдзен ВЫЛЧАЎ

## З кнігі "Маладзік і ветах"

### Ода

Паэт? Ён скрозь паэт. Яму
усё роўна:
у цемру замуруйце, як у мур,
задзьміце свечачку яго — у поўнач
пасвеціць поўня, як ліхтар, яму.

### Паведамленне

Вось і свята Прачыстай — і блісну ў
ліст пажоўклы і долу ляціць.
Павуцінка над полем павісла,
разам з марывам сінім трымціць —

нібы той правадок тэлеграфа,
па якім нам паведаміць ноч:
- Падрыхтуйцеся: досвіткам заўтра
-- восень ціха вам стукне ў акно.

### Што

-- Што думаў ты, калі стаяў учора
перад акном, расчыненым
у двор?
-- Ляцеў з той птушкаю
пярэстапёрай,
-- з якой пакінуў я зямны прастор.

-- Што сніў ты ноччу, калі дождж
у злосці
хвастаў залеваю твой парапет?
-- Раку. І вузкі над ракою мосцік.
І насупроць -- жаночы сілуэт.
-- Што бачыў ты ў цямрэчы
пракаветнай,
калі мяняў надзею на адчай?
-- Што за ракой мяне чакаюць:
пекла -
дык пэўна, і зусім няпэўна -- рай.

### Смерць старога паэта

Сягоння столькі добрых слоў
яму казаць -- мо трохі подла.
Чаму ты ўчора не сказаў іх
ці ў той самы дзень,
калі ў абмін яго бяды
імчаўся рана й позна
і ў мітусні будзённай быў
сцюдзёны, як лядзень?

Зямля -- сумленнейшая, брат.
Хоць і глядзела моўчкі,
як ён ідзе,
як падае,
як цяжка шлях цэрэбіць свой,
але ўсё з ім была. Таму,
не ўчуўшы слоў тваіх вымоўных,
ён да яе ідзе. І ў сне
навек абдымецца з зямлёй.

### Ганна

У кожнага была Ганна ў жыцці,
хоць аднойчы,
кожны грэшнік глядзеў
на вароты раю.
Захад фламінгавы. Лотасы лашчаць
мне вочы.
І я -- мару пра Ганну сваю.
І ўздыхаю.

### Пісьмо

Гэты вечар я ў думках з табой.
Захад быў залаты і пяшчотны.
Ноч усю танцаваў я з табой.
Ты ж была па той бок акіяна.

Так і золак сустрэў я з табой.
За акном у галлі пела птушка.

### Расстанне

Я -- вінаваты. Быў бяссільны я
перад красой -- не змог, на жаль,
сказаць: спыніся! І ці вісельня,
ці злая куля, ці кінжал
мяне чакае -- я не знаю.
Ды ўжо назад не адрабіць.
Я тры зімы знаў шчасце раю.
Дай Бог і мёртваму там быць.

### Сэрца

Ці не таму, што гэткае ж па форме,
трапечашся, як на галінцы ліст -
і пры вячэрніх дум
грымлівым шторме,
і калі ўранку павявае брыз?

Але ж лісты... ты знаеш, сэрца,
знаеш,
як кружыць восень іх
пад ветру свіст...
Няўжо таксама залатым ты станеш,
калі сарвешся, як з галінкі ліст?

### Песня

Што дам я табе на ростань?
Даў бы гэту зару, але ж
зара пагасне,
зара адыдзе,
так, як ты адыходзіш цяпер,
ад мяне адыходзіш навек
з гэтай зарой.
Што дам я табе на памяць?
Даў бы персцень вось гэты, але -
муж яго ўбачыць
і запытае:
дзе ўзяла, ад каго, як даўно
маеш, верная жонка мая,
гэты персцень?

Дык што ж табе даць, скажы мне?
Дам табе гэту песню -- яна,
яна застанецца
і будзе жыць,
так, як ты застанешся са мной,
так, як ты будзеш жыць у ва мне
гэтай песняй.

**З балгарскай пераклаў Ніл ГІЛЕВІЧ**

# Крэпасць жыве ў сэрцы

27 жніўня 2002 года Алесю Махначу споўнілася б 80. Абаронца Брэсцкай крэпасці, вядомы пісьменнік і проста высока інтэлігентны, таварыскі чалавек, ён пакінуў пра сябе добрую памяць.

...1 кастрычніка 1989 года ў Жабінцы праводзілася раённае свята кнігі і беларускага фальклору. Актыўнымі ўдзельнікамі яго сталі самадзейныя артысты, бібліятэкары, члены літаратурнага аб'яднання "Плынь", што пры мясцовай газеце "Сельская праўда", і госць з Мінска — Алесь Махнач. Наконт прыезду Алесі Іванавіча былі крыху сумненні: чалавек прайшоў праз горан вайны, зведаў пекла канцлагера, застаўся на ўсё жыццё інвалідам, дый узрост ужо пад семдзесят.

Але ў строга вызначаны час ён з'явіўся ў гарадскім Доме культуры. Рухавы, з пасівелаю галавой, з нязменнаю спадарожніцай-кульбаю, Алесь Іванавіч адразу стаў прыкметным на свяце. Нешта ў Махначовым характары было такое, што гуртавала вакол яго людзей розных узростаў.

Калі далі слова, Алесь Іванавіч пачаў гаварыць пра цяжкасці, якія перажывае беларуская мова (было гэта яшчэ да прыняцця Закона аб мовах), а потым, як бы спахапіўшыся, што ў зале многа вучняў, распавёў пра пачатак вайны, юных абаронцаў Брэсцкай крэпасці і нядаўна выдадзеную дакументальную аповесць "Дзеці крэпасці". Асэнсаванне героікі Вялікай Айчыннай вайны было і ў п'есах "Шпачок" і "Гаўрошы Брэсцкай крэпасці". Адчувалася, што жыве ў ягоным сэрцы памяць пра крэпасць над Бугам, дзе столькі маладых байцоў трымалі экзамен на жыццёвую сталасць. Услед за рэпартажам са свята мы надрукавалі ўрывак з аповесці і ўсё: нумары "Сельскай праўды" і фатаграфіі — паслалі Махначу.

Можа, гэтым і закончылася б наша знаёмства, але амаль праз дзевяць гадоў нам выпала сустрэцца зноў. У перапынку на XII пісьменніцкім з'ездзе я падышоў, каб павітацца з Алесем Іванавічам. Быў ён усё такі ж рухавы, усё з той жа кульбачкай, толькі валасы сталі малочна-белымі. Першыя словы, сказаныя Махначом, здзівілі мяне:

А я Вас памятаю!

І, як бы ў пацвярджэнне, пачаў расказваць, што ў "ЛіМе" была невялічкая нататка пра кнігу майго сына Анатоля "Наш край — Жабінкаўшчына". Што ён, Махнач, схадзіў у бібліятэку, знайшоў і прачытаў кнігу...

Я паабяцаў папрасіць сына падараваць кнігу Алесю Іванавічу. Пасля Толінай пасылкі мы атрымалі аповесць "Камандзір Усходняга форта" пра П. Гаўрылава, набор партрэтаў абаронцаў Брэсцкай крэпасці, у тым ліку і Махнача, і тую вядомую нататку з "ЛіМа".

Пасля гэтага мы яшчэ сустракаліся, ліставаліся. Ініцыятыва, як мне здаецца, зыходзіла ад яго, Алеся Іванавіча. Ён дасылаў выдадзеныя кнігі, а ў лістах расказваў, чым займаецца. Так, напрыканцы ліпеня 1999 года Махнач, у прыватнасці, напісаў: "Па запрашэнні Брэсцкага гарсавета быў 24—25 ліпеня г.г. на ўрачыстасцях з нагоды 980-годдзя горада над Бугам і 55-годдзя з дня яго вызвалення. З абаронцаў крэпасці былі таксама запрошаны Герой Савецкага Саюза Мяснікоў, Кюнг, Сакалоў і Валянціна Зенкіна:

На XII з'ездзе беларускіх пісьменнікаў Махнач, убачыўшы мяне, сказаў:

Калі шукаеце месца, дык сядайце тут. Пагаворым!

Як мне здалося, усе, хто сядзеў поруч, былі тымі людзьмі, з кім хацелася пагаварыць Алесю Іванавічу. Махнач расказаў, што нядаўна з групай пісьменнікаў пабываў на яго радзіме Уздзеншчыне. Па дарозе дадому трапілі ў аўтадарожную аварыю. Алесь Іванавіч хваляваўся за лёс сяброў.

Махнач распытваў пра сына, а таксама расказаў, што закончыў кнігу-нарыс пра родную вёску Забалацце. Вось-вось яна павінна з'явіцца ў друку. Ён лічыў, што добра было б, каб Анатоль стварыў кнігу пра адно з паселішчаў Жабінкаўскага раёна.

Адразу за намі сядзеў Алесь Марціновіч. Махнач перадаў яму свой допіс для "ЛіМа". Алесь Іванавіч думаў пра заўтра, пра жыццё, таму для мяне была вялікай нечаканасцю вестка з Мінска пра яго смерць. Але засталіся кнігі, напоўненыя цяплом і дабрынёй, засталася памяць пра інтэлігентнага і адукаванага чалавека, засталіся радкі Петруся Броўкі:

*Скажу я заўсёды таварышу-другу —*
*Ніколі, ніколі табе не памерці,*
*Калі ты душою, як крэпасць над Бугам,*
*Калі гэта крэпасць жыве ў тваім сэрцы.*

**РАСЦІСЛАЎ БЕНЗЯРУК**
г.Жабінка Брэсцкай вобласці.

# Па дарозе ў прыгожы зялёны сад

*(Пачатак на стар. 11)*

ягадзіну і кідала яе ў рот. А калі натрапіла на вялікую паляну, усыпаную буйнымі спелымі суніцамі — уся паляна была чырвоная! — яна і ўвогуле спынілася. Стаяла на адным месцы і, амаль не разгінаючыся, ела ягады — назбірвала цэлую жменю, кідала суніцы ў рот, паволі, памагаючы сабе языком, ціскала іх там, смакуючы духмяны, нагрэты сонцам сок.

Заюшыўшыся, яна позна пачула нейкі невыразны шум ззаду — здалося, што гэта кімсьці напалоханы дзік, ламаючы галлё, імчыць у яе бок з бліжэйшых кустоў. Ратавацца не было часу ды і сэнсу таксама: ну і што, калі яна памрэ не ад дзіды, а ад вострых іклаў дзіка...

Яна нават не паспела разагнуцца, як той бег сюды, цяжка сапучы і хакаючы, раптоўна спыніўся ля яе, рэзкім рухам падняў і закінуў на спіну ёй кашулю...

Усё гэта было якраз як і тады.

Яна нават чамусьці ведала, што так яно адбудзецца і на гэты раз.

Тады якраз быў Дзень кармлення зямлі брагаю і яйкамі.

У лесе гэтак жа, як і сёння, не спявалі птушкі.

На такой жа паляне ў Гульбішчы таксама было шмат спелых суніц.

Гэтак жа на яе накінуўся тады ззаду Мікаш — хлопец, у якога, як ёй здавалася, вочы былі нібыта прывязаныя чым да яе: куды яна ішла, туды яны і глядзелі.

Але яго толькі на гэта і хапала — глядзець. На свята Расы, у ноч умыкання дзяўчат, хоць яны папярэдне і дамовіліся, што ён на ігрышчы ўкрадзе яе, Купалку, Мікаш так і не адважыўся гэта зрабіць. Можа, таму, што старыя-русальшчыкі абралі яе тады галоўнаю скакухаю, якіх звычайна выбіраюць з самых прыгожых дзяўчат, а можа, яго стрымала нешта зусім іншае.

Было ў ім заўсёды нейкае вельмі сарамлівае стыдзенне да жанчын, а тут раптам, як звер які, накінуўся на яе ў лесе. Яна тады, спалоханая, крычала і плакала, але ўцякаць нават і не паспрабавала — баялася: хлопец быў дужа раз'юшаны, як сам не свой.

І вось цяпер тое паўтаралася...

Ён гатовы быў увесь увайсці ў яе, і яна рада была прыняць яго ўсяго...

Калі Купалка, нарэшце, разагнулася, усе рукі яе былі чырвоныя, як у крыві, — абапіраючыся даланямі на траву, яна падушыла шмат спелых чырвоных суніц, якія і ўчырванілі іх.

Купалка павярнулася да таго, хто накінуўся на яе. Мікаш апусціў вочы.

— Дурніца, чаго ты нямеешся, — спыталася яна. — Я ж так хацела цябе. І ведала, што ты прыйдзеш сюды. І будзеш такім, як тады.

Мікаш стаяў разгублены. Яна бачыла, што ён чагосьці не разумее, пра штосьці хоча спытацца. Нарэшце ён вымавіў:

— А тады табе было непрыемна.

— Не, мне і тады было вельмі люба.

— Дык а чаго ж ты тады білася і крычала?

Купалка памаўчала крыху, падумала, а потым усміхнулася:

Не ведаю...

А я за табою даўно сачу, — нарэшце, прызнаўся Мікаш. — Як толькі ты прыйшла ў Селішча.

А чаму ж раней не падышоў?

Няможна. Ты ж князёва жонка.

Ну і што, што князёва. Ну і што, што жонка, Князь жа мёртвы, а я жывая. І цяпер мне ўсё можна. Я ж збіраюся ў ір'е. І пакуль не палячу туды — ні на што няма мне забароны. Нават Вяшчун казаў, што чым болей мужчын пазнаю я да вогнішча, тым лепей — мае ж дні, Мікаш, на гэтай зямлі ўжо лічаныя...

З Гульбішча яны ішлі нікога і нічога не баючыся. Кармілі адно аднаго ягадамі: ён набярэ поўную-поўную жменю суніц і заткне імі яе рот, а тады яна, яшчэ не пражаваўшы свае ягады, зробіць тое ж самае і яму.

Вусны ў іх абоіх былі вымазаны сунічным сокам, і таму здавалася, што яны пакусаныя да крыві.

Калі Купалка вярнулася з Селішча, ёй да няўсцерпу захацелася схадзіць туды, дзе рыхтавалася вялікая крада — пахавальнае вогнішча, якое іхнія з князем душы ўзнясе ў ір'е. Такое, вядома ж, не заахвочвалася, але пярэчыць той, якой хутка не будзе сярод жывых, ніхто не адважваўся, не асмельваўся.

Аднак, калі Купалка ўжо ўзнімалася на гару, на якой неўзабаве ўспыхне вогнішча, насустрач ёй адтуль пачаў спускацца Вяшчун — яна зразумела, што ідзе ёй напярэймы, каб адгаварыць яе: навошта, маўляў, маладзіца вярэдзіць сваё сэрца і душу.

— Што, прыгажуня, тут забылася, — яшчэ не дайшоўшы да яе, здалёку загаварыў Вяшчун. — Мала табе хлопцаў і мужчын там, унізе, дык ты ідзеш сюды, на гару, каб адрываць іх ад работы?

— Я хачу паглядзець на апошнюю сваю хату.

— Навошта табе? Маладзіца, якая выпраўляецца на неба, не павінна гэтым цікавіцца. Яна павінна піць віно і медавуху, упрыгожваць галаву, прыбірацца і аддавацца мужчынам, якія захочуць цябе і якіх захочаш ты. Ты павінна радавацца будучыні, бо шчасце тваё — ужо там, на небе.

Яна ж усё яшчэ была на зямлі. Не прыбіралася, не піла медавухі. І сюды прыйшла ўсё ў той жа самай палатнянай сукенцы, у якой хадзіла ў Селішча.

— Купалка, ты не думай пра месца на зямлі, — усё гаварыў Вяшчун. — Ты думай пра месца ў ір'і, дзе будзе жыць твая душа.

— А ты маладою і застанешся, — задумаўся Вяшчун. — Ніхто маладосці ў цябе не адыме. І старасць ніколі не дагоніць цябе. У цябе не будзе старасці. Купалка! — чамусьці ўзрадаваўся Вяшчун.

Купалка агледзелася.

На кургане працавалі адны мужчыны. Адны, забіўшы ў зямлю калок і прывязаўшы да яго доўгую вяроўку, другім завостраным калочкам чырылі па траве вялізны круг, капалі па чыраным круглую канаўку, закладалі яе сухменем — сухім галлём, сюды ж зносілі кулі саломы і складалі іх ля канаўкі.

— Навошта? — спыталася яна ў Вешчуна.

— Калі загарыцца крада, падпальвецца і гэты вогненны круг. Каб аддзяліць мёртвых ад жывых. І яшчэ каб у дыме ніхто не ўбачыў, як душы будуць адлятаць у ір'е.

Адказаў ёй не Вяшчун, а Вежа. Высокі, статны, бравы дружыннік князя, які тут, на падрыхтоўцы пахавальнага вогнішча, быў за галоўнага.

Яго двор далёка адсюль — казалі, аж у двух днях шляху! — і ў князеву дружыну трапіў ён зусім выпадкова. Ён некуды ішоў, князь з дружынаю некуды ехаў, і яны сустрэліся. Там жа, на дарозе, Вежа і папрасіўся: "Вазьмі мяне, князь, у сваю дружыну". "А што ты ўмееш?" — спытаўся князь. Вежа моўчкі ўзяў ягоны меч і, сагнуўшы, аперазаў ім князя.

Гэта спадабалася князю, і Вежа стаў князевым дружыннікам.



— А я хачу паглядзець тое месца. Дзе назаўсёды застанецца маё цела.

І Вяшчун, убачыўшы, што Купалку нічым не спыніш, падаў ёй руку і дапамог узабрацца на пагорак.

Тут жа займала дух ад шырыні, ад тых даляглядаў, што адкрываліся перад ёю — зямля, асветленая сонцам, і людзі, што ўраблялі яе, былі з'яднаны адным святлом.

Унізе, ля самага падножжа кургана, блішчэла рака, і Купалка са сцятаю напругаю выдыхнула з сябе:

— Белалічка во побач. Вадзіца пад рукою ўвесь час будзе...

— І ветрык, бачыш, які дзьмець, — дадаў Вяшчун і тут жа зразумеў, што не трэба было гэтага гаварыць: навошта Купалцы ведаць, што і месца для іхняй крады-магілы якраз і выбіралі, каб быў свежы вецер — ён павінен паддуваць вогнішча, і яно мусіць гарэць шумна, з гудзеннем.

Але Купалка ўсё зразумела і нібы прадоўжыла Вешчуновы словы:

— Ага, полымя гудзець будзе тутдобра... А я ж такая маладая...

Раней пры сустрэчы з ім Купалка чамусьці заўсёды сарамліва апускала вочы долу.

Цяпер жа наадварот яна смела глядзела на яго.

— Пакажы мне, Вежа, маю апошнюю хату, — папрасіла, як загадала, Купалка.

У сярэдзіну начыранага круга мужчыны насілі нятоўстыя бярвенні, кароткія плашкі, нават дошкі і складалі ўсё гэта вакол дамавіны, якую дабудоўвалі цеслі.

Дойліды якраз палуднавалі непадалёку ад будоўлі — сядзелі на траве і елі што ў каго было.

Купалка ўзяла за руку дружынніка і сама павяла яго ў сваю хату.

Дамавіна была прасторнаю, светлаю, чыстаю. Не зважаючы на стружкі, якія ўсцілалі падлогу. І стружкі, і дошкі надзява прыемна пахлі смалою...

— Вось тут, пасярод дамавіны, пакладзём князя, — расказваў Вежа. — А тут, побач з ім, — цябе. А непадалёку тваё міладары будуць ляжаць. Каб пад рукою былі. Калі спатрэбяцца. А ваша пералносная печ ужо тут — бачыш, унеслі яе ў дамавіну.

Купалка азірнулася — печ з умазаным у яе гаршчком, у якім звычайна варылі першыя плады новага ўраджаю, стаяла ля самай сцяны каля ўваходу.

Яна скаланулася — маладзіца заўсёды баялася гэтай печы: ручкі, за якія браліся, каб перанесці яе, нагадвалі вушы; вялікая дзірка, у якой раскладалі агонь, — страшнаю пашчаю; дзве дзіркі крыху вышэй — быццам бы вочы. Асабліва жудаснаю здавалася печка тады, калі ў ёй што-небудзь варылася: у зяпе віраваў агонь, з вачэй вырываліся дым і полымя, і ўся яна нагадвала тады нейкую пачвару, дыхаючую агнём галаву, якая кучаравілася зверху параю...

Купалка, каб не бачыць печы, рэзка крутанулася, і ледзь не ўпала — каб не не падтрымаў Вежа, павалілася б на стружкі.

Яна ляжала на дужых Вежавых руках і нават не спрабавала станавіцца на ногі. Ляжала навісу — нібыта ў абдымках.

У яе кружылася галава, і яна міжволі пачала цягнуць Вежу на стружкі.

— А ты, Купалка, нахаба, — сказаў Вежа і рэзкім рухам паставіў яе на ногі.

— А я хачу, каб і ты стаў нахабам, — прашаптала яна і, ужо стоячы, мацней прыціснулася да яго.

— А я, княгіня, так не ўмею і не хачу, — з годнасцю адказаў Вежа і адпіхнуў яе рукою.

Аднак і з дамавіны яны выйшлі ўсё ж абняўшыся, прыціскаючыся адно да аднаго. Прайшлі каля цесляроў, што, палуднаваўшы, зноў збіраліся брацца за працу; каля Вешчуна, які, падняўшы высока бровы, моўчкі праводзіў іх вачамі, і пачалі спускацца з кургана.

Так і ішлі яны, абняўшыся, па палях і лугах, па дарогах і сцежках, і тым, хто застаўся на кургане, было відаць, як яны становяцца ўсё меншымі, меншымі і меншымі.

Нарэшце, яны спыніліся. Правільней — спыніўся Вежа і прытрымаў яе рукою.

Гэта была Даліна Свяшчэннага Рога.

Хоць Даліна была самым нізкім месцам у наваколлі, адсюль, здаецца, было лепей відаць, чым з усіх гор, кургаНоў, пагоркаў, што ўзвышаліся над ёю.

Вежа, мусіць, знарок выбіраў такое месца, каб іх можна было бачыць адусюль. І з кургаНоў, і з лагчын. І птушкам з дрэваў, і звяркам з нораў.

І тады ён узняў яе на сябе...

Купалцы здавалася, што Вежа ўзнімае яе ўсё вышэй і вышэй, вышэй і вышэй — у самае неба.

Вось ужо і дрэвы паніжэлі, засталіся на зямлі, а Вежа ўсё падымае і падымае яе. Вось ужо яна сярод птушак — тыя, як сяброўкі, лятаюць каля яе, не баяцца яе. Вось ужо яна дакранаецца далонямі да белых і чыстых воблакаў, лашчыць блакітнае неба. А ён усё ўзнімае і ўзнімае яе. Вышэй, вышэй, вышэй...

Ой, як ёй хораша — так хораша Купалцы не было яшчэ ніколі ў жыцці.

Ёй не хацелася зноў на зямлю.

І таму як толькі Вежа вярнуў яе з неба і паставіў на звычайную зялёную траву, яна незадаволена пляснула далонькаю яму па шчацэ. Вежа не зразумеў яе. Здзівіўся:

— За што?

— Мне не хацелася на зямлю. Я хацела быць там заўсёды. Усе дні, якія засталіся ў мяне...

— А я думаў, што ты сумішся з тае прычыны, што і я, — задумліва прамовіў ён.

Цяпер ужо здзівілася яна. Спыталася:

— З якой?

— Я аддаў табе сваё семя, — няспешна разважаў Вежа. — А гэта ж нашы дзеці. Мой сын. Можа, дачка, А можа, абое разам — двойня. А цябе спаляць. У табе згарыць і маё семя. Мае дзеці... — і тут жа, адпіхнуўшы ад сябе Купалку, закрычаў: — Я не хачу, каб у табе гарэлі мае дзеці!

Потым, адышоўшыся ад маладзіцы і не паварочваючыся да яе тварам, ціхімі, здавалася, спакойным голасам расказваў Купалцы:

— А перад спаленнем я мушу цябе забіць... Я... Цябе... Забіць. Кап'ём. У самае сэрца, — Вось сюды..

*(Працяг у наступным нумары)*

# "Златоуст, паче всех воссиявший..."

## Свяціцель Кірыла Тураўскі

Школу айчыннай гімнаграфіі і красамоўства заснаваў Кірыла Тураўскі (1130(?)—1182(?), якога яшчэ пры жыцці называлі "Златоустом, паче всех воссиявшим нам на Русі". Выхадзец з вяльможнага роду, св. Кірыл правёў жыццё ў надзвычай суровым манашскім подзвігу, пазней прыняў найвыпрабавальнае для фізічных і духоўных сіл стоўпніцтва. Кірыла Тураўскі знаходзіўся ў шырокіх зносінах з праваслаўным светам, як мяркуюць, высокую школу багаслоўя і красамоўства пераняў ад вучоных грэкаў. Час данёс толькі частку яго велічнай спадчыны, 8 "слоў", або павучанняў, Прытчу пра душу і цела (пра сляпца і храмца), Аповесць пра бесклапотнага цара і яго мудрага саветніка, казанне пра чарнарызскі чын, Канон і сціхіры на Успенне роўнаапостальнай Вольгі, Канон малебны, Канон пакаяльны, больш за паўсотні малітваў, духоўныя вершы-псалмоды.

Здзіўляе яго найдасканалае валоданне стараславянскай моваю, свабода ў моватворчасці, экспрэсія, афарыстычная гнуткасць зместу. Ён разам з нямногімі па тым часе кніжнікамі, Нестарам-летапісцам, мітрапалітам Іларыёнам, Яраславам Мудрым і інш., распрацоўваў, кадыфікаваў яшчэ ў даэразмаўскім чытанні той абагулены варыянт стараславянскай мовы, які прыняты пазней за богаслужбова-літургічны канон ва ўсіх славянаправаслаўных цэрквах.

Творы Кірылы Тураўскага вельмі асабістыя, уласна — гэта сведчанні ступеняў яго манашскага подзвігу, затворніка, ісіхаста, стоўпніка, іерарха, прага яго палымянага духу да ангельскай дасканаласці. Невыпадкова ён і выносіць у назву сваё імя, каб засведчыць як сваю асабістую "Кірылаву" малітву.

Таму яны такія пераканаўча-кранальныя як біяграфія адной душы, як шлях да ачышчэння, гэтае ўзыходжанне на духоўныя паверхі, каб жыхарстваваць у свеце сонцазорным. На гэтым крамяністым шляху суцэльны пакаяльны плач аб сваёй недасканаласці як адзіна магчымы на зямлі жывых для сцяжання святасці. Багатае Кірылава малітваслоўе ў нечым тыпалагічна роднаснае сусветнавядомай "Кнізе скрушных песняпеваў" армянскага манаха Грыгора Нарыкацы (951—1003).

Уражвае гэтае экзістэнцыяванне "ўнутранага чалавека", "паток свядомасці" ў "Молитве в понедельник па утрени":

"...Да прозрю внутреннима очима и еще тме сущи греховней одержащей мя, в ней же преходятся дни живота моего, ...зело бо превзыдоша беззакония моя на главу мою, яко бремя тяжкое отяготеша на мне, бо помяну мимошедшее время живота моего, убо преступника себе свем... и боюся, егда каго огньсошед с небеси и сожжет мя, или преисподняя пропасть жива пожрет мя ...Дивлюся бо ся себе, како крадом есмь греховными похотьми обретаются в делах, их же ненавижю, и падобная мыслям лишаются благодати Божия, ожидающего моего спасения".

Вялікі "тружайнік" духу, св. Кірыл вышэйшым узорам гімнаграфіі меў перад сабой псалмапеўца Давіда, ва ўсім наследаваў біблейскі лад думкі, яго боганатхнёныя вобразы і экспрэсію: "Ей Господи Боже мой! // кровь Твоя — цена души моея;// да внидет пред Тя молитва моя;// по словеси Твоему избави мя!// Помяни, яко перст есмь;// измерен ми есть живот// и положе на лета, изочтени же месяцы!// И в преполовении дней моих не погуби мене,// да не возвращуся з землю тмы вечна,// идеже нест света, ни жизни человеком".

Сімвалічнае тлумачэнне — умельства найвышэйшае, боганатхнёнае, з мноства спроб яго застаюцца ў часе толькі нешматлікія жамчужыны патрыстыкі. Таму і прыдатны для яго жанр прытчы — мастацтва адказнае. Уласна біблейская прытча, шматслойнае змястоўнае ўтварэнне, утрымлівае ў сабе касмічныя бездані іншасказальных прыпадабненняў і так альбо інакш звязана з усёй праваобразнай сістэмай Бібліі. Як выяўляецца на павер, гэта нават не жанр, а тып, характар алегарычнага бачання сусвету, дзе універсальнымі праваобразамі-сімваламі выступаюць не толькі падзеі гісторыі (спакушэнне праайцоў Дрэвам пазнання дабра і зла, кара Божая катаклізмам Сусветнага патопу, спаленне нябесным агнём за распусту Садома і Гаморы), але і касмагонія (шэсцьдзён тварэння), геалогія, лесвіца біялагічных відаў, яўгеніка народаў паводле Біблейскай этнаграфічнай Табліцы.

Усюдыісныя даследчыкі пад уплывам некалі модна-абавязковай тэорыі вандроўных сюжэтаў спрабавалі арыгінальныя творы Кірылы Тураўскага ўзвесці таксама да нейкіх старажытных прататыпаў паралюшнага, хоць новазапаветны змест іх, глыбінна перайначанае хрысціянскае светабачанне паказваюць на штучнасць адшукання ім гебрайскіх ці якіх іншых старажытных аналагаў. Дасллоўна ўспрынялі сціплыя прызнанні старажытнага кніжніка, які трымаўся святаайцоўскіх правіл умалення асабістых заслуг у пісанні: "Усё гэта я выклаў не па сваімодуме, але па святых кнігах. І гэта не слова маё, а толькі гутарка, бо я не такі настаўнік, як тыя царкоўныя мужы"...

Арыгінальная шматступенная сюжэтная пабудова (прытча ў прытчы), цалкам самастойная экзэгеза твораў беларускага багаслова выяўляюць адзіную крыніцу яго прытчавых аповесцяў — Слова Божае. Старазапаветныя і евангельскія вобразы, падзеі, прытчы ў свабодным, але ва ўсім глыбока змястоўным выкладанні ўтвараюць дзівосную амальгаму Кірылавага багаслоўя, сюжэтна-вобразную прастору яго алегарычных твораў. Можна нават сказаць, што ўсе тры яго прытчааповесці — феерыі, хоць і напісаны з рознай нагоды, утвараюць своеасаблівае адзінства — як і ў яго малітвах — усё аб тых жа найпакутлівых і крамяністых шляхах выбаўлення-ўзыходжання зямной душы.

У творы пра душу і цела адбываецца разгортванне прытчы пра вінаграднік, які насадзіў дамавіты чалавек, агарадзіў яго плотам з варотамі, пакінуўшы адчыненым ўваход, а для аховы паставіў храмца і сляпца. Евангельскі сюжэт аб Богу — вінаградары, што дараваў зямлю — свой вертаград запаветны чалавекам, якія ўявілі сябе самастойнымі гаспадарамі, слугі слуг Гаспадскіх — прарокаў прагналі, а Сына Яго адзінароднага забілі, у св. Кірылы перанесены на чалавека як храм Божы, вінаграднік у мініяцюры, каб на незлучальным зрашчэнні цела і душы даследаваць найскладаную дыялектыку "ўнутранага чалавека", шлях яго падзенняў і ўзыходжанняў. Гэтая задача прадвызначана таксама ў Слове Божым, што яно вастрэй мяча абоевострага "працінае да раздзялення душы і духа, суставаў і мазгоў, судзіць памысленні і намеры сардэчныя" (Яўр. 4,12).

І ўся драма разыгрываецца паміж храмцом-целам чалавека і сляпцом-душою яго, якія абкрадаюць храм Божы ў чалавека, яго вобраз і падабенства Божае, звальваючы віну на слабасць адзін другога.

У заключэнні аб'ядноўваюцца евангельскае і аўтарскае вытлумачэнне прытчы аб вінаградніку. Паколькі асноўнае поле бітвы дабра і зла — душа і плоць чалавечая, ад пераступлення імі закона і запаведзяў Гасподніх зыходзяць усе злыбеды зямлі, благаслаўленнага вінаградніка Божага.

Наступная аповесць, пра беларызца-чалавека і пра манашства з яе таксама шматступенным прытчавым сюжэтам на іншасказальных вобразах бесклапотнага цара і яго мудрага саветніка паглыбляе спасціжэнне непасціжнага — унутранага царства чалавека, дзе цела — горад, пачуццёвыя органы — людзі, цар — галава, розум, у валоданні якога ўсё цела і якому ён патурае, пакуль не здарыцца вялікае хваляванне ў горадзе-чалавеку — хвароба, патоп, мор...

І тады, паводле сюжэту прытчы, саветнікі прыводзяць цара да вялікай гары, на якой з акенца пячоры ззяе светлая зара: цар зазірае ў акенца і бачыць чалавека, які жыве ў вялікай галечы, але яго вянчаюць славаю сілы нябёсныя.

Гэтая дамінантная кульмінацыя прытчы і асабістых жыццёва-філасофскіх шуканняў свяціцеля. Жыццё чалавецтва ў богададзеным вертаградзе зямным і сам чалавек як храм, вобраз і падабенства Божае, калі ён агароджаны маральным законам і мудрымі запаветамі, вянчае гара чалавечага выратавання — манастыр, адкуль зыходзіць святло сонцазорнае. У прытчах гэты лейтматыў вар'іруецца, падкрэсліваецца, выносіцца ў абагульненне: жыццё манашскае, узнятае з прыроднага, спажывецкага існавання да анёльскага стану насельнікаў звышніх светаў, ззяе цудамі "паче мирское власти", таму "мірськыя вельможи свою поклоняють мнихом главу, яко Божиим угодником достойно въздають честь".

Існыя сімвал і крыніца сонцазорнага святла перад якім схіляе голаў чалавецтва, паводле вобразнай сістэмы іншасказанняў Кірылы Тураўскага, гэта ўжо на зямлі светаноснае жыццё бясcрэбранікаў, малітоўнікаў за ўвесь сусвет, гатовых абняць яго сваёю любасцю і апекай.

Пафас прытчы пра беларызца ва ўсім збліжаецца з кнігай Эклезіяста: жыццё спажывецкае — марнасць з марнасцяў, калі яно не ўзвышаецца на паверхні духу. Экзістэнцыяльнай навукай ужо адкрыта як закон, што з лянотнага, расліннага існавання чалавека выводзяць выпрабаванні і хвароба, нягоды, памяць аб смерці, калі перад ім расчыняюцца іншыя перспектывы прызначэння чалавечага, для чаго ён закліканы ў зямную удоль.

"Слова пра паралюшнага, якое ў нейкім сэнсе завяршае тэму зямнога выратавання чалавека і падрыхтавання яго для жыхарства ў Вечнасці праз з'яўленне Бога на зямлю ў Іпастасі Сына Свайго Адзінароднага належыць аднесці да асаблівых адкрыццяў св. Кірылы. У эпізодзе ацалення Хрыстом паралюшнага ля Авечай купелі, што 38 год чакаў ля яе ацалення, бо не было каму яго першым акунуць у асвечаную анёламі ваду, Кірыла Тураўскі адкрывае глыбінна сімвалічны сэнс Хрыстовай дзеі. Яе ўжо прадчуваў спакутаваны Іоў: "Я ведаю, Збаўца мой жывы" (Іоў 19,25). І вось у ацаленні Хрыстом паралюшнага ля Авечай купелі св. Кірыл угледжвае сусветную перамену, калі Сваёй хроснай смерцю Сын Божы стаўся Збавіцелем, Выратавальнікам усяго роду чалавечага. Беларускі экзэгет у творы словамі Ісуса Хрыста ўразумляе ацэленага: "Чаму кажаш: Чалавека не маю. Я дзеля цябе чалавекам стаў, шчодрым і літасцівым, не парушыўшы пры гэтым абету майго ўчалавечання...

Дзеля цябе я, бесцялесны, ў плоць увасобіўся, каб усе цялесныя і душэўныя немачы ацаліць.

Дзеля цябе я, нябачны ангельскім сілам, з'явіўся ўсім людзям, бо не хачу пакінуць вобраз мой у тленні лежачым, але хачу выратаваць і ў розум сапраўдны прывесці.

Ты кажаш: чалавека не маю! Я стаўся чалавекам, каб чалавека Богам зрабіць, бо сказана: "Богамі і Сынамі Вышняга будуць усе".

Я — вобраз жыцця, і вось райскую крыніцу з вуснаў маіх лію на цябе, а ты імкнешся да Авечай купелі, якая хутка перасохне!

Кірыла нарадзіўся ў 1110 г. у г. Тураве. Паходзіў ён, на думку А.А.Мельнікава, з сям'і начальніка тураўскага гарнізона або тураўскага намесніка вялікага князя. Даследчык нават выказвае меркаванне, што бацькам Кірылы мог быць сам князь Яраслаў Святаполчыч. Ад настаўніка-грэка з атачэння княгіні Варвары малады Кірыла, відаць, выдатна засвойвае візантыйскую класічную адукацыю. Каля 1123 г. змена тураўскай дынастыі, ганенні на бацькоў, неўзабаве іх адыход да Госпада падштурхнулі юнака прыняць манашаскі пострыг, магчыма, у абіцелі, заснаванай яго бацькамі, Мікольскім мужчынскім манастыры. Згадаем, што не толькі князі, але і многія заможныя гараджане засноўвалі храмы. У Тураве іх было да 40 да 75—80 на той час. У хуткім часе духоўны асяродак усходнеславянскіх зямель знаёміцца з пяццю малітвамі Кірылы-манаха.

Каля 1148 г., калі мітрапалітам кіеўскім абіраецца Клімент Смаляціч, інак Кірыл прымае на сябе подзвіг стоўпніцтва ўслед за аскетамі Бліжняга Усходу і Візантыі Сімяонам (390) і вучнем яго Даніілам (409—493), замыкаецца ў стоўпападобнай келліпіртасе. У 1157—1158 гг. з перамогай грэкафільскага руху, пасля заваёвы Турава князем Юрыем, які вызначаўся імкненнем да незалежнасці ад Кіева, Кірыл рукапакладаецца ў епіскапы. Менавіта на гэты час прыпадае росквіт таленту тураўскага "златавуста", які змагаецца ў пропаведзях сваіх з рэшткамі ў яго пастве забабонаў і адкрытага язычніцтва, заклікае жыць у Хрыстовых запаветах, клапаціцца пра гаротных і знясіленых.



Упершыню, на думку даследчыкаў, слынны князь Андрэй Багалюбскі знаёміцца з Кірылам Тураўскім (магчыма, прапануе яму епіскапства) паміж 1150—1151 гг., калі бацька Юрый Далгарукі аддае князю Андрэю Перакопніцу, Тураў, Дарагабуж, Пінск.

Кірыла Тураўскі ў бытнасць сваю епіскапам узводзіць велічны сабор. З-за падзей міжусобіц на мяжы 80—90 гг., пакінуўшы епіскапскі сан, свяціцель падвізаецца ў Барысаглебскім манастыры, дзе былі пахаваныя і яго астанкі. Ужо ў XIII ст. яго імянуюць святым манахам, а ўжо ў XIV ст. пішацца яго праложныя жыціе і служба ў яго гонар як месцачцімага святога. Шырокае яго ўшанаванне пачынаецца на мяжы XIX—XX ст.ст.

Алена ЯСКЕВІЧ.

# Ад "Ляписа" да "Багемы"

***Парадоксы нашага часу***

1

Мы жывём у часы крайнасцяў і парадоксаў. Дэкларацыі ўпэўненых у сабе, як ісціне ў апошняй інстанцыі, дзеячаў — і сарамлівая нязгода самых простых абывацеляў, звычайных людзей; багатыя машыны "новых" — і бамжы на сметніках; мінімальныя (каб не рэзала вуха слова "жабрацкія") заробкі настаўнікаў — і зусім іншыя кошты паслуг людзей з фанабэрыста-абыякавымі вачамі ды з замежнымі найменнямі: дылер, маклер, менеджэр і г.д...

У сучасным мастацтве супярэчнасці відавочныя толькі для прафесіяналаў. Звычайны аматар пра іх і не задумваецца. Прычым, крайнасці тыя крычаць нямым крыкам. Бліскучыя прэм'еры на сцэне Вялікага тэатра — зачыненая філармонія (не з прычыны летняга сезону, а з-за аварыйнага стану яе будынка). Шырокую грамадскасць гэта ніяк не ўсхвалявала — як той казаў, "быў хлопчык і няма хлопчыка". Але, можа, марш-пратэст "фанаў" філарманічнага мастацтва, падобных да футбольных фанатаў, яшчэ наперадзе?

Смешна... Няма "фанаў" у сферы гэтак званай сур'ёзнай, або акадэмічнай, музыкі. Ёсць інтэлігентныя аматары. У іх авангардзе — прафесіяналы з сярэдне-спецыяльнай або вышэйшай адукацыяй, якіх не так ужо і шмат.

А вось аргументы на карысць асаблівага прыярытэту класічнага музычнага мастацтва, пацверджаныя прыкладамі з жыцця сучаснага Захада, выклікаюць адно раздражненне. І не толькі ў звычайных людзей, а й у прафесіяналаў. Маўляў, ведаем, што жыццё там іншае. І ўсё ж...

Заходнія заўсёднікі оперных спектакляў і канцэртаў — не толькі эліта. Да яе імкнуцца падцягвацца многія. Асаблівая каштоўнасць сур'ёзнай музыкі там неаспрэчная і падтрымліваецца не толькі самой мастацкай сферай знутры (гістарычна сфармаванай сістэмай значнасцяў), але і пры дапамозе шоу-бізнесу як часткі пэўнай сістэмы, а таксама ўсёй магутнасцю дзяржаўнай машыны. Зноў жа — традыцыя...

Калыска заходнееўрапейскай культуры, Грэцыя дэкларавала вышыню інтэлектуальнай забавы вуснамі вялікага Арыстоцеля. І сёння на Захадзе новыя работы паважаных і любімых, вядомых і модных музыкантаў чакаюцца, ім папярэднічаюць развагі, меркаванні ў тэлевізійных ток-шоу, у кідкіх інтэрв'ю з артыстамі на старонках папулярных газет. Прэм'ерныя ж вечары — гэта ўрачыстасці з рысамі карнавальнасці: бліскучай чарнатой смокінгаў, вытанчанай рознаколернасцю жаночых убораў, з асаблівым водарам парфумы. Усё гэта, зразумела, можа выклікаць толькі непрыманне, калі не раздражненне, у многіх нашых людзей. Рызыкну выклікаць абурэнне і такім прыкладам. Адзін з дабрачынных канцэртаў Пласіда Дамінга ладкаваўся... у каларыце чайнай ружы. Гэта вызначала адзенне гасцей на вячэры пасля канцэрта, афармленне залы. Нават пачастунак адпавядаў прапанаванаму адценню. Наш чалавек толькі пацісне плячамі: "Багатыя весяляцца..." а як весялімся мы?

2

Неяк мяне запрасілі на канцэрт групы "Ляпис Трубецкой". У маладзёжнай аўдыторыі гэтае імя каментаваць не трэба. Для чытачоў "ЛіМа", якія прадстаўляюць не толькі моладзь, зазначу, рызыкуючы выклікаць абурэнне "фанаў", што прыгаданы музычны ансамбль — "дыскатэчнага" кшталту.

Прызнаюся, дыскатэчны ўзрост застаўся ў мяне далёка ззаду, так што маё з'яўленне сярод ляпісаўскай публікі выклікала цікаўнасць некаторых прысутных. Канцэрт жа, як я даведалася пазней, адрасаваўся выдатнікам вучобы мінскіх ВНУ, для каго білеты часткова аплачваліся адпаведнымі прафсаюзамі. Мяне гэта наватне пацешыла, а агаломшыла: вось бы распаўсюдзіць такое мецэнацтва (знаёмае па 70-ых) на філарманічныя канцэрты...

Аналізаваць выканальніцтва гурта "Ляпис Трубецкой", у які ўваходзяць, дарэчы, інструменталісты высокага класа, я не збіраюся. Падзялюся, дарэчы, як у нейкі момант імпрэзы я зразумела, сутнасць яе прыцягальнасці для маладых.

Дык вось, на замоўленым канцэрце фактычна... не было канцэрта! Гэта — яшчэ адзін парадокс часу. Была належная зала, публіка, выканаўцы... І ўсё ж адбывалася штосьці нязвыклае. Нейкая музычная містэрыя ўцягнула прысутных праз свой горан, як у лейку без дна. Пульсуючы рытм басоў, шматкроць узмоцнены апаратурай, нібы адключаў усялякае асэнсаванне і тармажэнне: ногі пачыналі самі па сабе адбіваць рытм. Ніхто не сядзеў, не ўсе нават глядзелі на сцэну. Яна існавала сама па сабе, як нейкі магнетычны імпульс. Усё паўтаралася ў рытмцелаў і ног. Знаўцы тэксту галёкалі разам з салістам. Ён жа, заразліва скачучы, як Ванька-ўстанька, непрыгожы, раскаваны, у стракатай, з ляпаватым малюнкам, кашулі, усім сваім выглядам, здавалася, казаў: "Я нічым не адрозніваюся ад вас, я — як вы, забудзьцеся на праблемы з бацькамі, школай, інстытутам, дарослымі зануднымі людзьмі, "адарвіцеся"!"

Этымалогія некаторых слоў маладзёжнага слэнгу паказальна цікавая. Вось, напрыклад, слова "шнуркі", што азначае "бацькі", — тое, што стрымлівае, зашнуроўвае, а, часам, і невыказна душыць. Слова ж "адарвацца" блізкае ў вуснах юных яго першапачатковаму значэнню — парваць сувязь з чымсьці... "Адарвацца" — значыць, адпачыць і вызваліцца ад усялякіх абавязкаў. Для падлеткаў і юнакоў зразумелы і пажаданы такі заклік: адарвацца ад турбот, вучобы, звыклага і штодзённага свету.

Таму музыка "Ляписа" прыцягальная для іх. Немудрагелістая. Кліча плынь па цячэнні або, хутчэй, тузацца адпаведна сваёй прыродзе, яшчэ вуглаватай сутнасці, з падсвядомымі памкненнямі. Адпавядаюць зламанаму рытму мелодый і скокі тых, хто танцуе: дзе ўжо тутда гладкай і непарыўнай плыні думкі!

"Скакаць" — на дыскатэцы — тое самае, што "не думаць". Тут, з аднаго боку, вы — самсвет, замкнёны ад умяшальніцтва аўтарытэтаў, этыкі і інтэлекту. З другога ж, у музычнай дыскатэчнай містэрыі суіснуюць-пульсуюць сусветы соцень такіх жа, хто скача: я — вольны, я — сама свабода, я — гук, я — рытм, я — цела, я — ногі, і мне добра...

Дачакаўшыся знакамітага хіта "Ты кінула", смеючыся, паскакаўшы, пакрычаўшы "кі-ну-ла" з усімі ў зале, я зачыніла за сабой дзверы... Гэтыя юныя і, напэўна, зусім някепскія людзі, прыйшоўшы дадому, скінуць з сябе незадаволенасць, заарганізаванасць, адзіноту і немаведама што яшчэ. Яны вызваляцца ад праблем сённяшняга дня. Толькі вось на які час?.. Цяпер жа "Ляпис Трубецкой" — гэта весела і бестурботна. Музычная карнавальнасць і клаунада новага кшталту. Недатыкальная гапіна, куды дарослыя не лезуць (не разумеючы і старонячыся).

А чым жа тым часам жывуць дарослыя?

Некаторыя з нас, каб па-свойму "адарвацца", ідуць у рэстараны і кавярні (недаступныя для безграшовай моладзі). Сёння няма праблем з іх запаўненнем пры беднасці большасці айчынных зарплат. (Яшчэ адзін парадокс жыцця.) Асноўная ж маса да самазабыцця "паглынае" тэлепрадукцыю: не трэба нават выходзіць з дому, каб патрапіць у музычную містэрыю кшталту "ляпісаўскай". А хтосьці бавіць час на кухні за чаркай. Вядома ж, ёсць і катэгорыя людзей, якія заглыбляюцца ў свет цудоўных кніг і канцэртаў...

3

Мінскія заўсёднікі оперы чакалі прэм'еру новай пастаноўкі "Багемы" Д. Пучыні. Каля фасаднай лесвіцы Вялікага тэатра пыталіся лішні білецік: ля ўваходу — сумятня; у фае — дамы ў прыгожых сукенках, у воблаку водару парфумы; кавалеры, калі і не ў смокінгах, то падцягнутыя і памаладзелыя. Усе — у чаканні музыкі, пра якую вядомы пісьменнік і журналіст Б. Парамонаў сказаў прыкладна так: "Калі руская музыка прымушае сябе палюбіць, дык італьянскай аддаешся адразу і без аглядкі".

Опера "Багема" ўпершыню была пастаўлена ў 1896 г. і мела поспех. Дырыжыраваў сам маэстра Артура Тасканіні. Твор напісаны на сюжэт аповесці "Сцэна з жыцця багемы" невядомага, вечна "безграшовага" журналіста А. Мюржэ: Пучыні быў зачараваны яе героямі. Слова "багема" аўтары (лібрэтыстамі сталі Л. Ііка і Д. Джакоза разам з кампазітарам) звязвалі з характарыстыкай людзей, якія не маюць іншых сродкаў да існавання акрамя мастацтва, чый цярністы творчы шлях мог прывесці альбо да вядомасці і забяспечанасці, альбо да невядомасці, хваробаў і начлежнага прытулка.

Героі "Багемы" — бедныя маладыя людзі, насельнікі Лацінскага квартала Парыжа, якія займаюцца мастацтвам. Гэта і кампазітар Шанар, і філосаф Кален, і паэт Рудольф, і мастак Марсель, іх чароўныя сяброўкі Мімі і Мюзета, а таксама суседзі, знаёмыя, словам — звычайныя людзі, кшталту тых, каго можна сустрэць і ў нашы дні каля акадэмій музыкі і мастацтваў. Карціны іх жыцця, хаця і досыць бядотнага, іскрацца надзеяй, вясёлымі забавамі, сяброўствам і пяшчотай адно да аднаго.

Сюжэт гэтай лірыка-камічнай музычнай драмы з трагічнай развязкай вядомы. Адзін з 4-х "мушкецёраў" (паводле трапнага вызначэння заўсёднікаў багемнай кавярні) — паэт Рудольф сустрэў дзяўчыну Мімі. Яны пакахалі адно аднаго, але ўсё закончылася заўчаснай смерцю Мімі ад сухотаў — на руках каханага, сярод засмучаных сяброў. Распаўсюджаная гісторыя, ці не так?..

Пастаноўшчыкам тут асабліва няма чым "ствараць сцэнічнасць". Нездарма ў свой час гэту оперу называлі операй "абарванцаў", нявартай пяра Пучыні. Знешне свет багемы — не выйгрышны матэрыял для сцэнічнага ўвасаблення. Ні табе кідкіх убораў, ні шыкоўных атрыбутаў, ні карцін бліскучага балю... Што тады прыцягвае?

Артура Тасканіні казаў, што музыка "Багемы" перадае "водар найтонкіх рухаў душы"... Як жа такую музычна-псіхалагічную глыбіню зрабіць відовішчнай? Як у сатворчасці з Пучыні Нацыянальны тэатр оперы Беларусі (рэжысёр-пастаноўшчык Г. Ісаакян, мастак Л. Ганчарова) прадставіў музычны змест "Багемы"?

Сцэнаграфія і пастаноўка спектакля не толькі вонкава прыцягальная, але, на мой погляд, зручная для выканаўцаў, што немалаважна. Тэатр адмовіўся ад гістарычнай дакладнасці і натуралізму антуража. Фасад сцэны, вольны ад непатрэбных рэчаў, мабільна можа быць ператвораны альбо ва ўмоўны пакой бедных студэнтаў, альбо ў абстрактную залу кавярні, альбо ў вуліцу. Сярэдні план сцэны ўяўляе канструкцыю кшталту рыштаванняў, паверхі якіх цікава абыгрываюцца падчас дзеяння. Напрыклад, на верхніх пляцоўках раз-пораз з'яўляюцца дзіўныя назіральнікі ў чорным. Ці то сведкі з будучыні, ці то ўмоўныя назіральнікі за багемай, ці то прахожыя, што бязглузда сноўдаюцца.

Злева ад гледачоў — некалькі экранаў з выявай жанчыны, нібы абагульненне кахання... Справа — велізарныя, але вонкава празрыста-лёгкія, пушыста белыя, нібы ад шэрані, галінкі. Яны нясуць дзівосны знак папярэджання: у атмасферы багемы не заўсёды сонца і весялосць. Скульптурная выява кісці рукі з "перстом указующим" у ходзе оперы замяняецца выявай ступні. Гэта і тонкая іронія, і складаны сімвал. Кожны прачытае яго па-свойму, а хтосьці толькі перасмыкне плячамі. Магчыма, гэта знак "прызямлення" падзей. Магчыма, сэнс... у адсутнасці сэнсаў і логікі ўчынкаў багемы.

Мазаічнасць усіх кідкіх сцэнічных атрыбутаў утварае нязмушаную атмасферу намёкаў, сімвалаў, загадак і жадання іх разгадаць.

Штрыхі афармлення оперы нетрадыцыйныя і блізкія музыцы "Багемы", Арганічнасць спектакля і ў тым, што артыстамі пераканаўча ўвасоблена багемнае асяроддзе: філосаф Кален (І. Пеўзнер), музыкант Шанар (М. Майсеенка), мастак Марсель (У. Пятроў), паэт Рудольф (С. Франкоўскі). Салісты зліліся са сваімі героямі, набылі лёгкасць і абаяльнасць маладосці, тактоўна, з пачуццём густу, з годнасцю і свабодай ведучы свае ролі.

1-ая карціна — знаёмства і з гераіняй оперы — Мімі (В. Курбацкая). Знешняя прыгажосць і тонкасць спявачкі падмацаваныя абаяльнасцю голасу. У першай жа сцэне Рудольфа і Мімі галасы спевакоў магутна, выразна, свабодна запаўняюць прастору сцэны, выклікаючы суперажыванне.

Пастановачная кульмінацыя оперы — дзеянне ў Лацінскім квартале напярэдадні Калядаў. Рудольф, Мімі, Марсель, Шанар і Кален — у святочным натоўпе... Бестурботныя гараджане, салдаты, вулічныя хлапчукі, студэнты, паненкі... Гандляры, афіцыянты... Вялікая колькасць дзейных асобаў дае магчымасць выкарыстоўваць яркія тэатральныя штрыхі і эфекты, маніпуляваць спалучэннямі розных планаў, пластычна аб'ядноўваючы іх у адзіную рухавую плынь. Пакарнавальнаму яркае дзеянне безупыннае. І, дарэчы, харавыя эпізоды (галоўны хормайстар Н. Ламановіч) арганічныя, маналітныя, прафесійна сінхронныя і інтанацыйна дакладныя.

У калейдаскопе музычных фарбаў адметныя галасы асноўных герояў. Але падчас калядных святаў яшчэ адна дзейная асоба прыцягвае да сябе агульную ўвагу ў віхуры шматфарбнасці. Мюзета (Т. Трацяк) — каханка мастака Марселя — таксама ўдалы і выразны вобраз спектакля. Спакушальныя інтанацыі змяняюцца пяшчотай і палкасцю. Побач з гуллівасцю, у трапятлівасці яе галасавых інтанацый закладзены глыбінны шыфр вобраза. За знешняй раскаванасцю шчаслівай "ільвіцы" вясёлага Парыжа высвечваецца тонкая, добрая і глыбокая душа, памкнёная да былога каханага...

3-я карціна, дзе адбываецца трагічны паварот падзей, уражвае, сярод іншага, выкананнем партыі Рудольфа, якая ўбірае ў сябе і горкую іронію, і эмацыйную ўсхваляванасць. С. Франкоўскі па-майстэрску аб'ядноўвае палымяную кантылену са змрочнай рэчытацыяй, у фінале, дзе адсутнічае кідкая пастановачнасць, ёсць абаяльная жанравая замалёўка гульбы 4-х "мушкецёраў", якая выклікае ў гледача ўсмешку. І потым — паварот у зусім іншую атмасферу: атмасферу адыходу Мімі з жыцця.

Пастаноўшчыкі спрабуюць тут пераадолець пэўныя ўмоўленасці оперы: гераіня пакутліва памірае, а на яе спевах пабудавана ўся карціна... Як у гэтым дамагчыся пераканаўчасці?

Рэжысёр выкарыстоўвае прыём "раздваення". Актрысу-"дублёра" Мімі, якая выяўляе азяблую і зусім аслаблую гераіню, укладваюць на ўмоўны ложак, у галаве якога ўладкоўваецца Рудольф, каб падтрымаць каханую. Мімі "нумар адзін" — В. Курбацкая застаецца ў свабодным



руху на сцэне, увасабленнем яшчэ пакуль жывога цела і душы, якія прагна скіраваныя да жыцця, але ўжо рыхтуюцца пакінуць гэты свет. Чароўная Мюзета, якая ператварылася ў сціплую жанчыну, што перажывае чужы боль, аддае дарагія ўпрыгажэнні на продаж — для набыцця лекаў для Мімі. Эфектны прыём: яна, здымаючы з плеч белае футравае манто, затуляе ім Мімі...

Але смерць гераіні набліжаецца. Сябры моляцца, укленчыўшы побач з Мімі-"дублёрам", якая ляжыць, а яе душа — Мімі-Курбацкая ўзыходзіць па рыштаваннях, пакідаючы наш свет назаўсёды.

Ёсць яшчэ адзін "герой" оперы, які нябачна, але музычна безупынна прысутнічае ў спектаклі — апірышчам, стрыжнем, душой. Гэта — сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам А. Анісімава. Аркестр — актыўны ўдзельнік падзей і каментатар, здатны выказаць недаказанае галасамі спевакоў, як хор у антычнай трагедыі. І перад слухачом — аркестр вышэйшага класа. Прынамсі, гэта пацвярджаецца ўменнем адчуць і выказаць самыя тонкія дынамічныя рухі, што адпавядаюць кароткім крашчэнда на некалькі тактаў партытуры...

4

А што ж "Ляпис Трубецкой"? У параўнанні з "Багемай" блякне і растварaецца ў небыцці весялосць дыскатэчных напевак. Гэта толькі няўклюдная фізкультура для ног натоўпу, разгарачанага аглушальнымі гукамі, што дзейнічаюць на мозг ды інтэлект з адмоўным эфектам. "Багема" ж — тая эмацыйная вышыня, якая здатная адкрываць духоўныя шлюзы чалавека. Застаецца толькі меркаваць: як з дыскатэчных залаў забраць публіку ў залы канцэртныя і ў оперу? Як далучыць да сімволікі сапраўднага мастацтва? Ці магчыма гэта ў нашы дні?

Пытанні, на якія пакуль няма адказаў.

**Наталля СЦЕПАНЦОВА,**
**дацэнт Беларускай акадэміі музыкі**

На здымку: сцэна з оперы "Багема".
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА

# ПАКАРАГОДЗІМ?

Менш за месяц застаецца да ўрачыстага адкрыцця ў Гомелі III Міжнароднага фестывалю харэаграфічнага мастацтва "Сожскі карагод". Як вядома, Міністэрства культуры Беларусі, Міністэрства спорту ды турызму, Гомельскі абласны выканаўчы камітэт праводзяць яго з мэтай развіцця фестывальнага руху на Беларусі, папулярызацыі харэаграфічнага мастацтва і ўмацавання культурных сувязяў паміж народамі.

"Пакарагодзіць" запрашаюцца прадстаўнікі прафесійнага і аматарскага, у тым ліку дзіцячага мастацтва, салісты, дуэты, ансамблі, балетмайстры, мастакі-мадэльеры, крытыкі. Плануецца мноства конкурсных і паказальных праграм; прэзентацыі калектываў, іх выступленні на канцэртных пляцоўках Гомельшчыны; маршпарады па вуліцах абласнога цэнтра; тэатралізаваныя фальклорна-этнаграфічныя імпрэзы. Мае адбыцца Міжнародны адкрыты турнір па спартыўных бальных танцах, агляд балетмайстарскіх работ, заняткі творчай лабараторыі. Святочных фарбаў дададуць і эстрадныя шоў.

Фестываль "Сожскі карагод" замоўлены на 20—22 верасня. Ды падрыхтоўка да яго адчуваецца ў Гомелі ўжо даўно. Мясцовыя прадпрыемствы абяцалі нават здзівіць гасцей свята вырабамі з фестывальнай сімволікай. Яно і зразумела: горад жа сёлета адзначае сваё 860-годдзе, так што ўсё павінна быць асабліва ўрачыста і запамінальна.

Чакаецца, што разам з гаспадарамі фэсту карагодзіць будуць аматары ды знаўцы харэаграфічнага мастацтва з Балгарыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Кітая, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі ды іншых краін. Так што — гайда ў карагод!

**С.Б.**

**Фота М.ЖЫЛІНСКАЙ.**








ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**В. а. галоўнага рэдактара**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Яўген РАГІН,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**Прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2336
Нумар падпісаны ў друк

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 1991

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


## Верны "ЛіМу" сорак год



Ужо чатыры дзесяцігоддзі чытае "ЛіМ" народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка. У наступным годзе вядомы беларускі мастак адзначыць сваё 75-годдзе. Ён шмат гадоў узначальваў кафедру дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў і выхаваў выдатных і знакамітых сёння мастакоў. Гаўрыла Вашчанка мае званне прафесара, лаўрэата дзяржаўнай прэміі Беларусі, "Чалавекам XX стагоддзя", прызнаў яго Кембрыджскі міжнародны біяграфічны цэнтр. Ён узнагароджаны медалём "Францыск Скарына" і ў 1995г. абраны акадэмікам жывапісу Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва.

З 1962 года выпісвае Гаўрыла Вашчанка "ЛіМ", шукаючы ў газеце актуальныя навіны беларускага мастацтва і культуры. Праўда, прызнаецца Гаўрыла Харытонавіч, ён перайшоў быў да газеты "Культура" пасля яе заснавання, бо "ЛіМ" тым часам больш увагі аддаваў літаратуры, мала прапаноўваў матэрыялаў па мастацтве. "Праз некаторы час "ЛіМ" зноў актыўна звярнуўся да праблем сучаснага выяўленчага мастацтва, да інфармацыі пра актуальныя культурныя падзеі ў рэспубліцы. Сталі цікавейшымі і літаратурныя творы, і публіцыстычныя матэрыялы. І я зноў вярнуўся да "ЛіМа" – зазначае Вашчанка. – Я верны вашай газеце і сёння. Лічу, што "ЛіМ" цікавы, рознабаковы, неардынарны ў падачы матэрыялаў. У ім не пераважае толькі літаратура, а згуртоўваюцца ўсе бакі культуры, якія падаюцца не толькі інфармацыйна, але і праблемна".

**Анонс**

## За балетам — опера

Яны жывуць пад агульным дахам без малага 70 гадоў. І сцэна, і зала ў іх таксама агульная. Бо тут быў адзін творчы калектыў, і зваўся ён — Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр. Дзеля зручнасці калісьці пісалі проста: ДАВТ. Цяпер гэта два самастойныя і своеадметныя калектывы: Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы ды Нацыянальны акадэмічны тэатр балета. Сёлета ў іх агульным доме, што на Траецкай гары ў Мінску, — свята, народжанае агульнай гісторыяй: надышоў юбілейны, 70-ты сезон.

Першым распачне гэты сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі. Адбудзецца яго адкрыццё акурат сёння, 30 жніўня, вячэрнім спектаклем "Страсці" ("Рагнеда"), які паставіў мастацкі кіраўнік тэатра В.Елізар'еў на музыку А.Мдзівані.

Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі адкрые новы сезон 3 верасня. Будзе паказана класіка — "Князь Ігар" А.Барадзіна.

Застаецца толькі дадаць: сачыце за афішамі на сталічных вуліцах ды ў білетных касах і прыходзьце ў дом на Траецкай гары.

**С.Б.**





*На здымках: сцэны з першых спектакляў новага сезона — балета "Страсці" ("Рагнеда") ды "Князь Ігар".*

**Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА**